ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (151) кастрычнік 2023 год
CATHOLICNEWS.BY

# Дзеці з Браслава разам з біскупам Алегам Буткевічам далучыліся да акцыі "Мільён дзяцей моліцца на Ружанцы"

**18 кастрычніка тэлемост злучыў арганізаваныя групы ў пяці гарадах Беларусі: Мінску, Магілёве, Браславе, Гомелі і Гродне.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Распачалася сустрэча з прывітальнага слова сакратара Апостальскай Нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь кс. Кшыштафа Сарокі, які ўпершыню далучыўся да акцыі і ад імя Папы Францішка перадаў ружанец, што вырушыць у малітоўную вандроўку па беларускіх парафіях. Пасля прысутныя біскупы ў розных кутках Беларусі блаславілі ружанцы і распачалася малітва Хвалебнымі таямніцамі святога Ружанца, падчас якіх дзеці разам прамаўлялі і спявалі самыя вядомыя хрысціянскія малітвы.

Распачалі маленькія вернікі, сабраныя ў Хрысціянскім сацыяльным цэнтры ў Мінску разам з прысутнымі арцыбіскупам эмэрытам Тадэвушам Кандрусевічам і Генеральным вікарыем Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупам Юрыем Касабуцкім. Эстафету ад іх пераняў Магілёў. Трэцюю таямніцу спявалі дзеці, сабраныя ў Браславе разам са сваім Ардынарыем і Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам. Таямніцу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі вялі маленькія вернікі з Гомеля. Пятую хвалебную таямніцу разважалі ўдзельнікі з Гродна, якія маліліся разам з біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам ў катэдральнай базыліцы святога Францішка Ксавэрыя.

З заключным словам да ўсіх звярнуўся біскуп Алег Буткевіч: "Гэтая малітва, якая плыла з мільёнаў шчырых сэрц дзяцей, напоўна будзе той моцай, якая з'ядная для сучаснага свету, для нашай краіны, для кожнага чалавека так патрэбны сёння супакой. Веру моцна, што гэтак станецца".





Стар. 3

Польшча і аборты: як іх дазвалялі, абмяжоўвалі і што будзе далей



Стар. 4

Напаўдарозе да беатыфікацыі. Біскуп Лазінскі – крыніца беларускай каталіцкай духоўнасці



Стар. 5

Асудзілі біскупа, выгналі езуітаў: што адбываецца з Касцёлам у Нікарагуа



Стар. 6-7

"Бог не памыляецца". Жыццёвы шлях да капуцынаў брата Андрэя Багдановіча



Парализованный мастер изготовил коляску для Папы Франциска

Стар. 8



Стар. 14

Як вернікі ў Дунілавічах вярнулі сабе святыню

# Пантыфік на Сінодзе: не засмучаць Святога Духа пустаслоўем!

**Папа Францішак узяў слова падчас генеральнай кангрэгацыі, якой адкрылася першая сесія XVI Звычайнай Асамблеі Сінода Біскупаў. Яна прайшла ў другой палове дня 4 кастрычніка ў ватыканскай Зале Паўла VI.**

Пантыфік заняў месца за сталом разам з іншымі 464 удзельнікамі сінадальнага сходу, з якімі падзяліўся сваімі чаканнямі адносна чатырох найбліжэйшых тыдняў працы асамблеі. Ён заахвоціў да ўважлівага слухання, стварэння месца для Святога Духа, малітвы і рэфлексіі, а таксама да пазбягання прасоўвання мірскіх інтарэсаў і ідэалогій.

Галоўнай дзейнай асобай Сінода з'яўляецца Святы Дух, таму "не будзем засмучаць Яго пустаслоўем і балбатнёй, шырока распаўсюджанай хваробай у Касцёле", – сказаў Папа, заклікаючы таксама пазбягаць пляткарства. "Калі ты не згодны з тым, што кажуць біскуп, законніца або свецкі вернік, скажы ім гэта ў вочы. Менавіта для гэтага існуе Сінод, каб казаць праўду, а не распаўсюджваць плёткі", – дадаў Пантыфік.

Папа адзначыў, што патрэбны "аскетызм, пэўны пост у словах". Ён асаблівым чынам звярнуўся да журналістаў, нагадваючы, што падчас папярэдніх сінадальных сходаў іх удзельнікі адчувалі ціск з боку СМІ, што факусавалі ўвагу толькі на некаторых пытаннях. Напрыклад, падчас "Сінода аб сям'і" медыі прадстаўлялі сход як дыскусію на тэму Камуніі для разведзеных; падчас "Сінода аб Амазоніі" – адносна жанатых мужчын, якія ў місійных краінах маглі б стаць святарамі; перад цяперашнім Сінодам узнікаецца дыскусія пра святарства жанчын. Папа заклікаў прадстаўнікоў СМІ "добра і справядліва выконваць сваю працу, каб Касцёл і людзі добрай волі зразумелі: нават у Касцёле прыярытэтам з'яўляецца слуханне".



# Папа Францішак асабіста патэлефанаваў пробашчу з сектара Газа

**Папа Францішак патэлефанаваў кс. Габрыэлю Раманэлі, каб выказаць падтрымку і даведацца, што адбываецца ў сектары пасля масавых нападаў ХАМАС. У хрысціянскай супольнасці, якая прымае 150 уцекачоў, загінулых і пацярпелых няма, піша Vatican News.**

Святы Айцец пастаянна сочыць за тым, што адбываецца ў сектары Газа. Пра гэта распавёў пробашч парафіі Святой Сям'і ў Газе кс. Габрыэль Раманэлі, які зараз знаходзіцца ў Бэтлееме і падтрымлівае пастаянную сувязь з вернікамі. "Папа патэлефанаваў мне некалькі хвілін таму, выказаў сваю падтрымку і запэўніў у малітвах, – кажа святар. – Мы падзякавалі яму за заклік да спынення агню і супраць любога гвалту, супраць тэрарызму і любой вайны". Айцец дадаў, што Папа Францішак таксама збіраецца патэлефанаваць непасрэдна ў супольнасць, у якой знаходзіцца вікарый і якая прымае уцекачоў у парафіі.

Парафія ў Газе дала прытулак амаль 150 людзям, якія страцілі свае дамы або шукаюць выратавання ад бамбёжак, хоць, як тлумачыць айцец Раманэлі, абстрэлы адбываюцца па ўсім сектары Газа. Ахвяраў і разбурэнняў у хрысціянскай супольнасці няма. Ва ўсёй Газе – 770 загінулых і больш за 4000 параненых у выніку ізраільскіх рэйдаў у адказ на напады ХАМАС 7 кастрычніка. "Учора таксама тэлефанаваў Папа Францішак", – адзначыў настаяцель. – Святы Айцец хацеў ведаць, што адчуваюць людзі і парафія, і ўдзяліў бласлаўленне, каб кожны мог адчуць блізкасць Касцёла".


Касцёл у сектары Газа. Паводле credo.pro

# Кардынал Паралін: на Блізкім Усходзе гасне крохкая надзея на мір

**Падзеі на Блізкім Усходзе, у Ізраілі, Палесціне і сектары Газа яшчэ больш пагражаюць крохкім надзеям на мір, якія, здавалася, з'явіліся на гарызонце пасля паразумення з Саудаўскай Аравіяй, заўважыў кардынал П'етра Паралін.**

Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы пракаментаваў апошнія трагічныя падзеі на Блізкім Усходзе падчас семінара на тэму "Еўропа як гарызонт міру", які прайшоў у калысцы ордэна камелудаў – старажытным кляштары Камальдолі ў Італіі. "Акрамя дыпламатычных высілкаў, якія, здаецца, не прыносяць вялікіх вынікаў, і я кажу гэта таксама ў адносінах да вайны ва Украіне, мы ўсе павінны з'яднацца ў адзінагалоснай малітве за мір", – дадаў ён.

Кардынал Паралін адзначыў, што заклік Папы Францішка да міру, скіраваны падчас нядзельнай малітвы Анёл Панскі ў Ватыкане, быў паўтораны амаль усімі ўрадамі свету. У ім Святы Айцец нагадаў, што "тэрарызм і вайна не вядуць ні да якога рашэння, а толькі да смерці і пакутаў многіх нявінных людзей", а таксама заахвоціў маліцца за мір у Ізраілі і Палесціне. "Здаецца, што свет звар'яцеў, здаецца, што ён пакладае надзею выключна на сілу, на гвалт, на канфлікты, каб вырашаць праблемы, якія з'яўляюцца рэальнымі. Але яны павінны вырашацца іншымі метадамі", – сказаў Дзяржсакратар, размаўляючы з журналістамі на палях форуму.

"Акрамя знішчэння чалавечых жыццяў, сведкамі якога мы былі ў самым жахлівым выглядзе, цалкам згасаюць таксама і крохкія надзеі на мір, якія, здавалася, з'яўляліся на гарызонце", – дадаў ён, падкрэсліваючы, што цяпер спатрэбяцца значна большыя намаганні, каб прыйсці да мірнага рашэння – адзінага справядлівага рашэння і адзінага эфектыўнага развязання, якое дазволіць прадухіліць паўтарэнне такіх сітуацый.



# Зварот Каталіцкіх біскупаў Беларусі адносна дня посту, малітвы і пакаяння ў інтэнцыі міру



**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце!**

18 кастрычніка гэтага года, падчас Генеральнай аўдыенцыі, Святы Айцец Францішак, разважаючы пра шматлікія ваенныя канфлікты ў свеце сказаў: "У свеце адкрыта шмат франтоў вайны. Няхай змоўкне зброя, няхай будзе пачуты крык бедных і дзяцей аб міры. Вайна не вырашыць ніводнай праблемы. Яна сее толькі смерць і разбурэнне. Яна павялічвае нянавісць. Яна памнажае помсту". Пры гэтым Пантыфік дадаў, што вайна перакрэслівае будучыню. "Заахвочваю вернікаў стаць на адзін бок у гэтым канфлікце — бок міру, — не толькі словамі, але малітвай", — заклікаў Папа Францішак.

Святы Айцец прапануе правесці ў пятніцу 27 кастрычніка дзень посту, малітвы і пакаяння, да якога ён запрашае далучыцца людзей "розных хрысціянскіх канфесій, тых, хто належыць да іншых рэлігій, і ўсіх тых, хто імкнецца да справы міру ў свеце: няхай далучацца да гэтай ініцыятывы паводле свайго меркавання".

"27 кастрычніка ў 18.00 (па рымскім часе) у базыліцы святога Пятра мы перажывем гадзіну малітвы ў духу пакаяння, каб прасіць аб міры, міры ў гэтым свеце. Прашу ўсе партыкулярныя Касцёлы ўдзельнічаць у падрыхтоўцы падобных ініцыятываў з удзелам Божага народа", — заклікаў Папа Францішак.

Далучаючыся да просьбы Святога Айца, Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі заклікае вернікаў нашай краіны, кожнага хрысціяніна, а таксама кожнага чалавека добрай волі, якому неабыякавы мір на свеце, 27 кастрычніка зрабіць днём посту, малітвы і пакаяння ўнамеры міру.

Звяртаемся з прапановай і просьбай да кожнага пробашча ў Беларусі, каб, па магчымасці, 27 кастрычніка ў 19.00 па беларускім часе (па рымскім часе ў 18.00) далучыцца ў малітве да Святога Айца з адмысловым набажэнствам аб міры (паводле ўласнага меркавання).

На гэтую Божую справу ад усяго сэрца благаслаўляем,

***Каталіцкія біскупы Беларусі.***

*catholic.by*

# Папа объявил о предстоящей встрече с детьми со всего мира

**"Дети учат нас чистоте отношений, спонтанному принятию незнакомцев и уважению к творению", – подчеркнул Папа Франциск во время молитвы Angelus.**

"Сегодня рядом со мной, как вы видите, находится пятеро детей, представляющих пять континентов. Вместе с ними я хотел бы объявить, что днем 6 ноября в зале Павла VI я встречусь с детьми со всего мира. Это мероприятие, спонсируемое Департаментом по культуре и образованию, будет проходить под девизом "Давайте учиться у детей"", – сообщил Святейший Отец.

*Старонка 2 падрыхтаваная па матэрыялах Vatican News*

# Польшча і аборты: як іх дазвалялі, абмяжоўвалі і што будзе далей

**Заканадаўства Польшчы ў справе абортаў з'яўляецца адным з самых жорсткіх у Еўропе. Кампанію ёй складаюць толькі пяць іншых каталіцкіх краін, праўда, значна меншых па памерах: Андора, Ватыкан, Ліхтэнштэйн, Мальта і Манака. Сёння мы тлумачым, у чым асаблівасці польскага заканадаўства і як так атрымалася.**

**Упершыню аборты ў Польшчы былі часткова легалізаваныя яшчэ ў 1932 годзе.**

Тады перапыненне цяжарнасці было дазволенае па строгіх медыцынскіх паказаннях, а таксама ў выпадках згвалтавання, інцэсту або стасункаў з непаўналетнім ва ўзросце да 15 гадоў. Гэта было самае ліберальнае заканадаўства ў Еўропе на той момант пасля СССР. Але безумоўная легалізацыя абортаў мела месца ў Польшчы толькі ў часы нацысцкай акупацыі ў 1943-1945 гадах. Менавіта тады полькі мелі права зрабіць аборт на сваё жаданне. Гэтак Адольф Гітлер змагаўся з ростам насельніцтва на акупаваных славянскіх землях.

У камуністычнай Польшчы ліберальзацыя абартыўнага заканадаўства пачалася ў 1950 годзе. І ў 1956-м была прынятая пастанова, што дазваляла прыпыненне цяжарнасці па медыцынскіх паказчыках, калі яна наступіла ў выпадку згвалтавання, або з прычыны цяжкіх жыццёвых умоваў. Апошні пункт хоць фармальна і не дазваляў шырокае правядзенне абортаў, актыўна выкарыстоўваўся для гэтага. Як вынік у 1960 годзе ў Польшчы было зарэгістравана 230 тысяч абортаў.

Пры гэтым перыядычна ўзнікалі ініцыятывы з мэтай абмежавання абортаў, як, напрыклад, гэта зрабіў у 1987 годзе Клуб каталіцкай інтэлігенцыі са Шчэціна, каторы звярнуўся з адмысловым зваротам у Сейм.

Змены ж у заканадаўстве наступілі неўзабаве пасля падзення камуністычных уладаў: 7 студзеня 1993 года Сейм прыняў закон "Аб планаванні сям'і, ахове чалавечага плоду і ўмовы дапушчальнасці перапынення цяжарнасці". Тады было вырашана, што цяжарнасць можна перапыняць толькі ў трох выпадках: 1) пагрозы жыццю або здароўю цяжарнай (без абмежаванняў па ўзросце плода); 2) высокай верагоднасці цяжкіх і незваротных парушэнняў развіцця плода або невылечнай хваробы, якая пагражае яго жыццю (пакуль плод не зможа жыць самастойна па-за арганізмам цяжарнай); 3) пры абгрунтаваным падазрэнні, што цяжарнасць наступіла ў выніку забароненых дзеянняў (да 12 тыдняў ад зачацця). Названыя пагрозы і падазрэнні павінны пацвердзіць адпаведна лекары і пракурор. Менавіта гэтыя правілы і дзейнічаюць у Польшчы ўжо больш як 30 гадоў.

У 1996 годзе была прынятая папраўка да закону, што дазваляла перапыненне цяжарнасці таксама пры знаходжанні цяжарнай жанчыны ў цяжкіх жыццёвых умовах або цяжкай асабістай сітуацыі. Пры гэтым цяжарная мусіла прайсці абавязковыя кансультацыі і перыяд цішыні. Аднак 28 мая 1997 года Канстытуцыйны Суд заявіў пра неадпаведнасць гэтай папраўкі Канстытуцыі, якая пацвярджае "прававую ахову жыцця чалавека".

З таго часу ў Польшчы неаднаразова паўставалі разнастайныя ініцыятывы, якія прапаноўвалі як прапісаць у Канстытуцыі абарону жыцця ад моманту зачацця, гэтак і дазволіць аборты. На сваю падтрымку яны збіралі сотні тысяч подпісаў. Перыядычна таксама праходзяць пратэсты як праціўнікаў, так і прыхільнікаў легалізацыі абортаў. Апошнія з 2016 года ладзяць "Чорныя маршы жанчын".

У выніку зменаў 1993-1997 гадоў колькасць абортаў у Польшчы ўпала больш чым у сотню разоў: са 137 950 у 1980 годзе да 1076 у 2020-м. З апошняй лічбы 98% абортаў было зроблена на падставе эмбрыяпаталагічных прычынаў, г.зн. у выніку высокай верагоднасці цяжкага або незваротнага парушэння развіцця плода або захворвання, якое пагражае яго жыццю.

22 кастрычніка 2020 года Канстытуцыйны Суд Польшчы пасля звароту кіроўнай партыі "Права і справядлівасць" прызнаў, што такі від абортаў супярэчыць асноўнаму закону краіны. Пры гэтым суд заявіў, што ўлады абавязаныя гарантаваць маці да і пасля нараджэння дзіцяці адмысловую дапамогу, бо нельга ўскладаць цяжар выхавання цяжкіх інвалідаў або невылечна хворых дзяцей толькі на маці, паколькі дзяржаўныя органы і грамадства мусяць клапаціцца пра людзей, што апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Тым не менш, рашэнне Суда выклікала новыя пратэсты прыхільнікаў легалізацыі абортаў.

Тым часам колькасць абортаў зноў істотна знізілася: з 1076 выпадкаў у 2020-м да 107 і 161 у 2021 і 2022 гадах адпаведна. Аднак у Польшчы застаецца праблема нелегальных абортаў і абартыўнага "турызму" полек у іншыя краіны. Што праўда, маштаб гэтай з'явы адрозніваецца ў залежнасці ад таго, хто пра іх кажа. Прычым даволі моцна. Прыхільнікі легалізацыі абортаў заяўляюць, што ад 80 да 200 тысяч полек штогод вырашаюцца на аборт, праціўнікі – што такіх толькі ад 7 да 14 тысяч.

Пры гэтым меркаванне палякаў у пытанні легалізацыі абортаў змяняецца. І даволі моцна. Гэтак у 1990 годзе за поўную легалізацыю абортаў выступала 18% палякаў, а 23% былі за поўную забарону. У 2010 годзе забарону падтрымлівала ўжо 50% грамадзянаў Польшчы, а супраць яе было 45%. Але ў 2020 годзе 66% апытаных выказваліся за легалізацыю абортаў да 12 дня, а супраць – толькі 26%. Прычым вельмі моцна доля прыхільнікаў дазволу перапынення цяжарнасці вырасла сярод моладзі 18-29 гадоў.




**Пытанне абортаў на выбарах у Сейм**

Пытанне абортаў адыгрывае важную ролю і перад парламенцкімі выбарамі ў Польшчы ў 2023г. І хоць польскія партыі ў гэтым пытанні падзяліліся, некаторыя з іх не маюць выразнага адказу, што ж рабіць з абортамі.

Сярод буйных партыяў супраць абортаў выступае кіроўная "Права і справядлівасць". Напрыклад, у 2016 годзе старшыня ПіС Яраслаў Качыньскі казаў пра неабходнасць таго, каб нават выпадкі, "калі дзіцяціа асуджанае на смерць, моцна дэфармаванае, заканчваліся родамі, каб дзіця магло быць ахрышчаным і пахаваным, мела імя".



Таксама і ўльтраправая "Канфедэрацыя" яшчэ ў 2019 годзе называла адным са сваіх прыярытэтаў увядзенне "поўнай абароны жыцця". Як адзначаюць польскія медыі, у партыі няма нікога, хто б выступаў за легалізацыю абортаў. А некаторыя яе прадстаўнікі нават выступалі за забарону перапынення цяжарнасці з прычыны згвалтавання ці за ўвядзенне пакарання для жанчын і лекараў, якія вырашаюць рабіць аборт.

Кампрамісную пазіцыю займае кааліцыя "Трэці шлях", што аб'ядноўвае Польскую народную партыю (ПНП) і партыю "Польшча 2050". У ёй праціўнікам абортаў з'яўляецца нават старшыня ПНП Уладыслаў Касіняк-Камыш, прынамсі раней такіх самых поглядаў прытрымліваўся і лідар "Польшчы 2050" Шыман Галоўня. Супраць легалізацыі абортаў галасавалі і дэпутаты ад абедзвюх партый. Тым не менш, у сваёй выбарчай праграме "Трэці шлях" абяцае ў першыя сто дзён пасля перамогі вярнуць разгляд пытання ў Канстытуцыйны Суд і правесці адпаведны рэферэндум.

Найбуйнейшая апазіцыйная сіла – "Грамадзянская платформа" – выступае за паслабленне абартыўнага заканадаўства, але ў пэўных межах. У сваім праграмным дакуменце на гэты конт у 2021 годзе яна падтрымлівала легалізацыю абортаў да 12 тыдняў, але толькі для жанчын у цяжкай сітуацыі і пасля кансультацыі з лекарам і псіхолагам. Аднак у 2022 годзе лідар "Платформы" Дональд Туск заяўляў, што партыя легалізуе аборты на жаданне жанчын да 12 тыдня. Пры гэтым ён казаў, што ў выбарчыя спісы не ўвойдуць тыя палітыкі, хто не падтрымлівае аборты. А такія дэпутаты, прынамсі ў дзейным складзе Сейма, сярод чальцоў "Платформы" былі. Дый на гэтых выбарах партыя ўжо пазбавілася ад кандыдаткі ў дэпутаты, якая выступала за аборты на любым тэрміне цяжарнасці, палічыўшы такія заявы правакацыйнымі.

Прынялі ж яе ў спіс кандыдатаў ад сацыялістычнай кааліцыі "Лявіца", якая выступае за легалізацыю абортаў да 12 тыдняў і пасля 12 тыдняў у выпадку пагрозы жыцця жанчыне ці цяжкіх праблемаў плода. У 2022 годзе "Лявіца" актыўна падтрымлівала праект "Легальны аборт без кампрамісаў", які тым не менш не быў рэалізаваны.

**А як у Беларусі?**

**Аборты ў Савецкай Беларусі былі дазволеныя яшчэ ў 1920 годзе, але ў 1936 годзе іх забараніў Іосіф Сталін.**

Забарона дзейнічала да 1955 года. Піку аборты дасягнулі ў СССР у 1960-я гады, калі ва ўсім Савецкім Саюзе іх рабілі штогод каля сямі мільёнаў.

У сённяшняй Беларусі ўмовы правядзення абортаў значна больш вольныя, чым у Польшчы. Але і ў нас іх зрабілі больш жорсткімі дзесяць гадоў таму, калі пастановай Савета Міністраў былі скасаваныя некаторыя сацыяльныя паказчыкі для перапынення цяжарнасці.

Тым не менш, і цяпер у Беларусі аборт да 12 тыдняў цяжарнасці з'яўляецца абсалютна дасяжным для жанчын. Паводле сайту аднай з мінскіх бальніц, для грамадзянкі нашай краіны ён каштуе 85 рублёў 43 капейкі. Прыязджаюць у Беларусь рабіць аборт і замежніцы. Паводле адпаведных сайтаў, гэтая аперацыя для іх будзе каштаваць 400 долараў за 1-2 дні знаходжання ў стацыянары.

Таксама робяцца аборты па медыцынскіх паказчыках і на больш позніх тэрмінах чым 12 тыдняў. Прычым спіс гэтых паказчыкаў, зацверджаны ў 2014 годзе, даволі шырокі і ўключае ў тым ліку псіхічныя захворванні маці.

Таксама ёсць і два сацыяльныя паказчыкі для перапынення цяжарнасці ў прамежку паміж 12 і 22 тыднямі: цяжарнасць у выніку згвалтавання і цяжарнасць асобы, якую суд ужо пазбавіў бацькоўскіх правоў. У суседняй Расіі з 2012 года застаўся толькі адзін сацыяльны паказчык – згвалтаванне.

Паводле статыстыкі Міністэрства аховы здароўя, у Беларусі за апошнія гады вельмі моцна скарацілася колькасць абортаў. Калі ў 2000 годзе іх было 121 900, то ў 2022-м – толькі 16 696. Тым не менш, гэта ў 103 разы болей, чым за той жа перыяд у Польшчы. Пры тым, што насельніцтва Польшчы ў чатыры разы большае за насельніцтва Беларусі.

*Мечыслаў Гапановіч*

# Напаўдарозе да беатыфікацыі. Біскуп Лазінскі – крыніца беларускай каталіцкай духоўнасці

**На дадзены момант у Касцёле ў Беларусі вядзецца пяць беатыфікацыйных працэсаў: Эдварда Вайніловіча, а. Мельхіёра Фардона, а. Фабіяна Малішэўскага ОР (справа будзе ўзнаўляцца), біскупа Вінцэнта Ключынскага і біскупа Зыгмунта Лазінскага. Шлях да аб'яўлення благаслаўлёным апошняга з'яўляецца найбольш прасунутым.**



На якім этапе знаходзіцца працэс і чаму справа беатыфікацыі біскупа Лазінскага з'яўляецца асабліва істотнай для мясцовай каталіцкай супольнасці, распавядае кс. Яўген Вінтоў. Святар пазнаёміўся з асобай Слугі Божага, калі пісаў магістарскую працу па гісторыі Касцёла на тэму каталіцкага духавенства ў Мінску ў 1900-1950 гг. Падчас вучобы ў семінарыі ў Драгічыне ён меў шчасце знайсці і дакрануцца да сутаны і піўскі біскупа, якія цяпер прадстаўленыя ў адмысловым музеі. Сёння кс. Яўген даследуе дакументацыю, звязаную з беатыфікацыйным працэсам.

### Паскорыць вынясенне да хвалы алтара можа кожны з нас

*"Працэс распачаўся ў 1957 г. Тады ў Пінскай дыяцэзіі быў прызначаны пастулятар, які займаўся дакументацыяй і кантраляваў ход справы. За пяць гадоў сабраныя ўсе факты, усё, што было напісана біскупам Лазінскім і пра яго, забяспечана ў архіве Пінскай дыяцэзіі ў Драгічыне і адпраўлена ў Кангрэгацыю кананізацыйных спраў у Ватыкан. На гэтым інфармацыйны працэс быў выкананы, закончаны яго дыяцэзіяльны этап. У 1993 годзе Папа Ян Павел II выдаў дэкрэт аб гераічнасці цнотаў біскупа Лазінскага: да тытула "Слуга Божы" быў дададзены прыметнік "шаноўны",* – тлумачыць кс. Яўген.

Тое, што працэс біскупа перайшоў на рымскі этап, і вылучае яго сярод іншых беларускіх спраў па беатыфікацыі, бо астатнія знаходзяцца на дыяцэзіяльным этапе. Да аб'яўлення біскупа Лазінскага блаславёным застаецца апошні элемент – цуд.

*"У нашым выпадку аздараўленне праз заступніцтва Слугі Божага адбылося ў Варшаўска-Праскай дыяцэзіі ў 1996 г. Гэта запратакалявана і даслана ў Рым",* – адзначае святар. – *Ватыкан у сваю чаргу запрасіў канкрэтныя адказы на пытанні з медыцынскага пункту гледжання. Аднак на той момант кампетэнтных людзей не знайшлося".*

На гэты конт у адным з інтэрв'ю выказаўся дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец. Ён адзначыў, што ў адмысловай камісіі былі заменены дактары, а новыя знайшлі нейкія прычыны, што не могуць гэты цуд прызнаць.

Інакш кажучы, справа стала. Зрэшты, прычыны хаваюцца больш у юрыдычных нюансах. Па-першае, на сённяшні дзень працэс біскупа Лазінскага не мае пастулятара: былы адказны а. Станіслаў Паўлін FDP памёр, а новы яшчэ не прызначаны. Па-другое, справа павінна весціся там, дзе пахаваны будучы блаславёны. Труна біскупа Лазінскага знаходзіцца ў Пінску. Аднак цяпер Пінская дыяцэзія не мае Касцельнага суда, то бок не мае магчымасці падтрымаць працэс, хоць і зацікаўленая ў ім. Па-трэцяе, дакумент, у якім апісваецца здзейснены цуд, увогуле знаходзіцца ў Драгічыне, што раней геаграфічна належаў да Пінскай дыяцэзіі, а цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Драгічынскай дыяцэзіі ў Польшчы.

*"Да гэтай крыніцы я неўзабаве дабяруся. А пакуль ведаю толькі тое, што пэўная жанчына і яе дзеці маліліся з просьбай да Слугі Божага, каб ацаліў ад хваробы бацьку іх сям'і. І той атрымаў палёгку,* – распавядае кс. Яўген. – *Шчыра кажучы, калі глядзець з боку кананічнага права, то лепш, каб адбыўся яшчэ адзін цуд. Тады справа будзе свежай, палегчыць прадстаўленне доказаў. Бо нават калі знойдзем першага аздароўленага чалавека, невядома, ці будзе ён яшчэ жывы".*

Разам з тым святар дадае, што нягледзячы на ўсе перыпетыі працэсу, у параўнанні з іншымі ён яшчэ з'яўляецца лёгкім: *"Справа вядзецца паводле новых правілаў, устаноўленых пасля II Ватыканскага сабору і паводле інструкцый Кангрэгацыі кананізацыйных спраў. Мы маем сведкаў, якія давалі паказанні. Маем усю дакументацыю. Пра яго жывая памяць не толькі ў Беларусі, але і па-за межамі. Клерыкі ў Драгічыне (Польшча), якія толькі чулі пра біскупа Лазінскага, ужо на працягу 30-ці гадоў моляцца праз яго заступніцтва".*

### Беатыфікацыя як неабходнасць для духоўнага станаўлення вернікаў

Калі асобу аб'яўляюць блаславёнай, гэта значыць, што пацвярджаецца актуальнасць яго навучання для лакальнага Касцёла. Наколькі пастырская паслуга біскупа Лазінскага на нашых землях можа з'яўляцца асновай для духоўнасці Касцёла ў Беларусі?

*"Па-першае, калі глядзець на духоўную справу біскупа Лазінскага, то яго ўспрыняцце Марыі з'яўляецца ключом да разумення беларускага каталіка,* – распавядае кс. Яўген. – *У пэўным інтэрв'ю арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сказаў, што Беларусь – гэта зямля Маці Божай. У нас шмат марыйнай паэзіі, кожны іерарх мае аднясенне або сімвал Маці Божай Вастрабрамскай у гербе. Аднак, даследуючы марыялогію ў мясцовым Касцёле за апошнія 30 гадоў, я заўважыў, што ў гэтым напрамку хоць і зроблена шмат, ёсць пэўныя недахопы. Напрыклад, людзі ходзяць у пілігрымкі да Маці Божай, ведаюць, у якім стылі напісаныя абразы. Але дагматы (напр., беззаганнасць) ці біблійныя элементы тлумачацца толькі пры нагодзе святаў. Марыйнасць біскупа Лазінскага з яго разважаннямі, малітвамі і набажэнствамі магла б узбагаціць беларускую духоўнасць.*

*Па-другое, біскуп шмат увагі надаваў ідэнтычнасці народа, падкрэсліваў важнасць ведання яе як катэхізіса. Любоў да Айчыны ў аднайменнай фундаментальнай кнізе ён тлумачыў не як нейкі абавязак, але як адну з формаў любові да бліжняга. Як дар і цноту, каторыя чалавек атрымлівае і павінен у іх узрастаць. Клопат пра Радзіму з'яўляўся для яго адным з элементаў духоўнай фармацыі чалавека і канкрэтнай працай на карысць сваёй зямлі і землякоў.*

*Па-трэцяе, біскуп Лазінскі з'яўляецца важнай часткай нашай беларускай гісторыі. Ён нарадзіўся пад Навагрудкам і служыў пастырам на ніжэйшых і вышэйшых узроўнях дыяцэзій. Нават паспрыяў распачаццю беатыфікацыйнага працэсу а. Фабіяна Малішэўскага. Для яго было вельмі важным духоўнае развіццё нашых вернікаў і святароў".*

***Ангеліна Марцішэўская***



**З канонікамі Пінскага катэдральнага капітула**

***Даведка:***

✔Біскуп Зыгмунт Лазінскі паспрыяў рэлігійнаму развіццю і нацыянальнаму адраджэнню Беларусі. Ён стаў першым біскупам Пінскім, там жа заснаваў духоўную семінарыю. Цэлебраваў першую афіцыйную св. Імшу на беларускай мове ў мінскім катэдральным касцёле. Займаўся пашырэннем уніяцтва. Праславіўся як заўзяты змагар з камунізмам, за што яму давялося сядзець у сумна вядомай маскоўскай турме "Бутырка". Іерарх адышоў у жыццё вечнае ў Вялікую суботу ў 1932 г. Народнае ўшанаванне яго мошчаў пачалося адразу пасля смерці.

✔Існуюць тры падставы, у сувязі з якімі можна распачынаць працэс беатыфікацыі: мучаніцтва, ахвяраванне жыцця і гераічнасць цнотаў. Амаль у кожным працэсе апошнім з элементаў для завяршэння працэсу неабходны звышнатуральны знак (цуд).

Беатыфікацыйны працэс з'яўляецца вельмі складанай, шматэтапнай справай, якая часам доўжыцца стагоддзямі. Адным з ключавых элементаў працэсу служыць усталяванне ў дыяцэзіі Беатыфікацыйнага Суда. З аднаго боку стаіць пастулятар, які збірае ўсе факты і сведчанні "за" беатыфікацыю. З другога – праматар справядлівасці, якога некалі называлі "адвакатам д'ябла". Ягоная роля – ставіць пад сумнеў доказы. Гэтая місія з'яўляецца вельмі важнай, бо дазваляе пазбегнуць ваганняў адносна святасці жыцця дадзенай асобы.



**Біскуп Лазінскі ў маладосці**



**Пахаваны ў крыпце катэдральнага касцёла ў Пінску**

# Асудзілі біскупа, выгналі езуітаў: што адбываецца з Касцёлам у Нікарагуа



**Каталіцкі Касцёл у лацінаамерыканскай краіне Нікарагуа перажывае цяжкія гады, звязаныя з пераследам, арыштамі і дэпартацыямі. І хоць католікі тут сутыкаюцца з рэпрэсіямі не ўпершыню, у апошнія гады тыя надзвычай узмацніліся з прычыны дзеянняў сямейнага дуэту, які кіруе краінай, – прэзідэнта Даніэля Артэгі і яго жонкі Расарыя Мурыллё, што займае пасаду віцэ-прэзідэнта.**

77-гадовы Даніэль Артэга з юнацтва змагаўся з дыктатурай іншай нікарагуанскай сям'і – Самосаў, што кіравала краінай з 1936 года. Упершыню яго затрымалі ў 15 гадоў, некалькі гадоў ён правёў у зняволенні, а ў 1979-ым у рэшце ўзначаліў вайсковую хунту, што пачала будаваць у Нікарагуа сацыялізм. Ва ўладзе ён заставаўся да 1990 года, калі праз недахоп падтрымкі з боку СССР краіна сутыкнулася з крызісам і ён прайграў выбары.

Паўторна Артэга вярнуўся на пасаду прэзідэнта ў 2007 годзе. Неўзабаве змяніў Канстытуцыю, што дазволіла яму пераабірацца зноў і зноў. Але да справядлівасці выбараў пры ім былі сур'ёзныя пытанні.

У 2018 годзе ў краіне пачаліся масавыя пратэсты, і Касцёл падтрымаў грамадзянаў у патрабаванні справядлівасці і годнага жыцця. У адказ Артэга пачаў павольную, паступовую, але сістэматычную ліквідацыю любога праяўлення незалежнасці католікаў, хоць сам, прынамсі публічна, называе сябе католікам.




Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2021 года біскупы зноў крытыкавалі сітуацыю ў краіне за невыкананне правоў чалавека. Касцёл таксама прапанаваў выступіць пасярэднікам паміж апазіцыяй і ўладамі для вырашэння палітычнага крызісу, але Артэга адхіліў гэта. Палітык дамогся свайго пераабрання, перад тым арыштаваўшы або выціснуўшы з краіны пяць апазіцыйных кандыдатаў, і пачаў новыя рэпрэсіі.

Артэга абвінаваціў католікаў у саўдзеле ў спробе дзяржаўнага перавароту, нібыта ініцыяванага Вашынгтонам. А ў маі 2022 года нікарагуанскі парламент заклікаў да судовага пераследу рэлігійных лідараў, якія падтрымалі антыўрадавыя маршы 2018 года, і запатрабаваў канфіскацыі касцельнай маёмасці.

Як паведамляе Avvenire, за апошнія пяць гадоў на каталіцкую супольнасць адбылося больш за пяцьсот нападаў, і гэта толькі зарэгістраваныя выпадкі. З краіны былі выгнаныя або вымушаныя яе пакінуць каля 80 святароў, у тым ліку дапаможны біскуп сталіцы краіны Манагуа Сільвіё Баэс. Двум ксяндзам нават забаранілі вярнуцца ў краіну з Сусветных дзён моладзі ў партугальскім Лісабоне ў жніўні 2023 года. Выгнанне і арышты святароў прывялі да сітуацыі, калі біскупы вымушаныя хутка рэарганізоўваць парафіяльныя структуры, каб не пакінуць іх без душпастырскай апекі.

Нападам падвяргаліся і святыні. Самы рэзанансны з якіх – падпал улетку 2020 года вялікага ўкрыжавання, шанаванага ў катэдры Манагуа. У архідыяцэзіі заявілі пра старанна спланаванае злачынства, учыненае дасведчаным падпальшчыкам.

"Я думаю пра народ Нікарагуа, які пакутуе ад нападу на катэдру ў Манагуа, у выніку чаго быў вельмі пашкоджаны, амаль знішчаны вобраз Хрыста, каторы тут ушаноўваюць і каторы сuправаджае і падтрымлівае жыццё вернага народа на працягу стагоддзяў", – сказаў тады Папа Францішак.

### Прысуд біскупу

Адным з самых моцных крытыкаў уладаў быў біскуп Матагальпы Раланда Альварэс. У маі 2022 года ён абвясціў галадоўку ў знак пратэсту супраць ціску паліцыі, якая ўвесь час сачыла за ім. "У нейкі момант я спытаўся ў паліцыі, чаму яны тут, і яны сказалі мне, што гэта дзеля маёй уласнай бяспекі. Але мы ведаем, што ў гэтай краіне адсутнасць бяспекі ідзе менавіта ад паліцыі, менавіта яны прымушаюць мяне адчуваць сябе небяспечна", – сказаў ён.

4 жніўня 2022 года ўрадавыя агенты не дазволілі Альварэсу выйсці з дому, каб адслужыць Імшу ў катэдры Святога Пятра. Фактычна ён апынуўся пад хатнім арыштам. 13 снежня яму выставілі абвінавачанне ў змове "з мэтай падрыву нацыянальнай цэласнасці і распаўсюджвання ілжывых навін з дапамогай інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій на шкоду дзяржаве і нікарагуанскай супольнасці".

9 лютага 2023 года Альварэс разам з яшчэ 222 палітвязнямі, у тым ліку чатырма святарамі, дыяканам і двума семінарыстамі, мусіў быць дэпартаваны з Нікарагуа ў ЗША. Але біскуп адмовіўся і на наступны дзень быў абвешчаны здраднікам, пазбаўлены грамадзянства і асуджаны да 26 гадоў турэмнага зняволення.

**"Я малюся за іх і за ўсіх тых, хто пакутуе ў гэтай дарагой краіне, і прашу аб вашай малітве", – адрэагаваў Папа Францішак 12 лютага на прысуд і дэпартацыю.**

У сваю чаргу нікарагуанскі кардынал Леапольда Брэнэс заклікаў суайчыннікаў да міласэрнасці, прабачэння і малітвы за біскупа Альварэса, "каб Пан даў яму сілу і праніклівасць ва ўсім, што ён можа зрабіць". "Калі законы скажаюць, калі сёння мы маем сітуацыю, зусім адрозную ад Божага ладу мыслення, Пан заклікае нас: "Прабач, памірыся з братам", – сказаў ён падчас нядзельнай Імшы.

Біскуп Альварэс утрымліваецца ў турме Ла Мадэла. У пачатку ліпеня рабіліся спробы для яго вызвалення, але перамовы праваліліся.

### Разрыў стасункаў з Ватыканам

Прыпыніла Нікарагуа і дыпламатычныя стасункі з Ватыканам, хоць той неаднаразова заклікаў да "дыялогу як незаменнага інструменту дэмакратыі і гаранта больш гуманнай і братэрскай цывілізацыі", "да агульнага дабра і міру".

Яшчэ ў ліпені 2018 года на Апостальскага нунцыя ў краіне Вальдэмара Зомертага, кардынала Брэнэса і біскупа Баэса напалі ўзброеныя прыхільнікі ўладаў. 18 лістапада 2021 года ўрад Нікарагуа скасаваў пасаду "дэкана дыпламатычнага корпуса", якую з 2000 года займаў прадстаўнік Святога Пасаду. А ў сакавіку 2022-га ўлады краіны адклікалі зацвярджэнне арцыбіскупа Зомертага ў якасці Апостальскага нунцыя і запатрабавалі ад яго неадкладна пакінуць краіну. Святы Пасад назваў гэты захад "незразумелым" і "неабгрунтаваным", нагадаўшы, што нунцый удзельнічаў у нацыянальным дыялогу паміж уладай і апазіцыяй.

17 сакавіка 2023 года Апостальская нунцыятура ў Нікарагуа была ўвогуле зачыненая, а часовы павераны ў справах Святога Пасаду на патрабаванне нікарагуанскіх уладаў пакінуў краіну і пераехаў у Коста-Рыку. За некалькі дзён да гэтага Папа Францішак рэзка раскрытыкаваў Артэгу: "У турму пасадзілі біскупа, вельмі сур'ёзнага і здольнага чалавека. Ён захацеў даць сведчанне і адмовіўся ад высылкі. Гэта нешта архаічнае, гэта як вяртанне камуністычнай дыктатуры 1917 года ці дыктатуры Гітлера 1935 года".

Пастаянны назіральнік Святога Пасада ў ААН арцыбіскуп Фартунатас Нвачукву падчас пасяджэнняў 6-8 сакавіка ў Жэневе выказаў глыбокую занепакоенасць у сувязі з ростам гвалту і скарачэннем магчымасцяў для дыялогу і перамоваў паміж уладамі і грамадзянскай супольнасцю і заклікаў "пераадолець варожасць і шукаць магчымасці для канструктыўнага дыялогу паміж бакамі, закладваючы аснову для вяртання да мірнага суіснавання, заснаванага на павазе годнасці і правоў усіх людзей".

### Выгнанне ордэнаў і закрыццё каталіцкіх медыяў

Але мірнага суіснавання не атрымліваецца. Сёлета ўлады Нікарагуа забаранілі правядзенне ў краіне ўсіх працэсій у Вялікую пятніцу. Сярод жа тых, хто сабраўся ля катэдры Манагуа на набажэнства Крыжовага шляху, 17 чалавек былі арыштаваныя. Аднаго святара перад Вялікаднем проста выслалі з краіны. Забараняліся і іншыя каталіцкія святкаванні. Хаця ўлады і зрабілі выключэнне для свята святога Дамініка ў Манагуа, бо на гэты фэст прыходзіць шмат людзей піць алкаголь і забаўляцца. Паводле даследчыкаў, чыноўнікі імкнуцца не паведамляць пра забароны пісьмова, а робяць гэта праз "візіты ветлівасці".

**Артэга закрыў у Нікарагуа тры каталіцкія тэлеканалы, дзевяць каталіцкіх радыёстанцый ды праследуе манаскія супольнасці.**

У ліпені 2021 года з Нікарагуа выслалі 18 "Місіянерак Любові", заснаваных Маці Тэрэзай з Калькуты. Пасля іх надышла чарга "Сясцёр Крыжа Найсвяцейшага Сэрца Езуса" і сясцёр-трапістак. Таксама былі канфіскаваныя кляштары і выгнаныя законніцы, што паходзілі з замежжа.

"З 2022 па 2023 гады 65 законніц былі выгнаныя, а яшчэ шасці чальцам розных рэлігійных кангрэгацый быў забаронены ўезд – агулам гэта 71 чалавек", – паведаміла 29 ліпеня 2023 года Марта Маліна, аўтарка справаздачы "Нікарагуа: Касцёл, які пераследуецца?"

Паводле яе, пацярпелі дзесяць рэлігійных супольнасцяў. Апроч згаданых вышэй, гэта дамініканскія "Сёстры Звеставання", "Бедныя сёстры Езуса Хрыста" і яшчэ пяць супольнасцяў, якія не называюцца з меркаванняў бяспекі.

18 мая 2023 года нікарагуанскія СМІ паведамілі пра закрыццё Каталіцкага ўніверсітэта Беззаганнага Зачацця ў Манагуа, які быў адкрыты ў 2011 годзе і навучаў семінарыстаў з розных дыяцэзій Цэнтральнай Амерыкі. Міністэрства ўнутраных спраў заявіла пра яго добраахвотны роспуск. 19 жніўня зачынілі яшчэ адну каталіцкую ВНУ – Цэнтральнаамерыканскі ўніверсітэт у Манагуа, які ўлады краіны абвінавацілі ў тэрарызме і маёмасць якога загадалі канфіскаваць. Універсітэтам з 1960 года кіравалі езуіты. За ўніверсітэт заступіўся айцец Артура Соса, генеральны настаяцель Таварыства Езуса. У сваім пасланні ён назваў абвінавачванні супраць універсітэта цалкам фальшывым і беспадстаўным паклёпам і падкрэсліў, што кіраўніцтву было адмоўлена ў праве на абарону. Генерал ордэна запатрабаваў спыніць агрэсію супраць універсітэта і яго супрацоўнікаў, адкрыўшы "шляхі для дыялогу", заснаваныя "на праўдзе, свабодзе і праве моладзі і ўсяго народа Нікарагуа на якасную адукацыю". Пасля гэтага ўлады краіны скасавалі прававы статус езуітаў у Нікарагуа і загадалі канфіскаваць усю іх маёмасць.

У сваёй заяве Цэнтральнаамерыканская правінцыя Таварыства Езуса адзначыла, што захады ўладаў накіраваныя на "поўнае ўсталяванне таталітарнага рэжыму". Адказнымі за гэта былі названыя прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт.

Пераслед Касцёла з боку ўлады Нікарагуа прымае таксама іншыя формы. У канцы мая пачалося замарожванне сродкаў на банкаўскіх рахунках усіх касцельных устаноў, у тым ліку дыяцэзій, парафій і адукацыйных структур. Апраўдвалася гэта абвінавачваннямі Касцёла ў адмываванні грошай і ў ажыццяўленні "злачыннага перамяшчэння сродкаў", якія нібы "трапілі ў краіну нелегальна".

Паводле іспанамоўнага каталіцкага агенцтва ACI Prensa ад 22 жніўня, каталіцкія парафіі ў Нікарагуа знаходзяцца пад назіраннем 24 гадзіны. Як тлумачыць Маліна, католікі могуць удзельнічаць у Імшы і здзяйсняць сакраманты, "але за імі заўсёды сочаць", а казанні святароў заўсёды запісваюцца. І тых, хто згадвае біскупа Альварэса, "неадкладна наведвае паліцыя".

Агулам, піша папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе", пераслед Касцёла ў Нікарагуа "мае палітычную, а не рэлігійную матывацыю". А "перспектывы правоў чалавека, у тым ліку свабоды веравызнання, выклікаюць глыбокую трывогу і негатыўныя".

*Мечыслаў Гапановіч*

# “Бог не памыляецца”. Жыццёвы шлях да капуцынаў брата Андрэя Багдановіча

**Мяне завуць брат Андрэй Багдановіч, я капуцын. Нарадзіўся ў вёсцы Палонка Баранавіцкага раёна ў 1993 годзе. Мой тата паходзіў з каталіцкай сям'і, мама – з праваслаўнай, бацькі ўзялі шлюб у касцёле. Мая сям'я вялікая: я – старэйшы брат і маю яшчэ чатырох сясцёр.**



**– Як адбыліся Вашыя першыя крокі ў хрысціянстве?**

– Ад самага дзяцінства ў касцёл мяне вадзілі дзядуля і бабуля. Прыкладна ў пяцьшэсць гадоў я ўжо служыў міністрантам. Канешне, на той момант гэтае служэнне выглядала проста: я ў комжы стаяў пры алтары, нешта там падаваў, дапамагаў святару.

Наогул да моманту, калі пачаў служыць міністрантам, найчасцей у касцёле я задаваў бабулі адно і тое ж пытанне: “Ці доўга яшчэ?” Літургія была на польскай мове, не вельмі ўсведамляў, што адбываецца. Шчыра кажучы, было крыху сумна. Калі стаў міністрантам, стала больш цікава і зразумела.

**– Чым увогуле цікавіўся і як жыў хлопчык Андрэй? Ці спалучалася жыццё свецкае з жыццём рэлігійным?**

– Я цікавіўся шматлікімі рэчамі. Асабліва любіў чытаць, займаўся спортам. У вёсцы жыццё заўсёды насычанае і разнастайнае, асабліва, калі ў ім няма тэлефонаў і камп'ютараў. Прыкладна да 13-14 гадоў я паспяхова спалучаў рэлігійнае жыццё са штодзённым свецкім. А потым настаў момант, калі на некалькі гадоў я адышоў ад Касцёла.

**– Як Вы лічыце, чаму так адбылося?**

– Тут ёсць некалькі прычын. Па-першае, я не меў упэўненасці, што да канца веру ў тое, што бачу і чую ў касцёле. Хутчэй, гэта была традыцыя, вера ў Бога, якую мне пераказалі старэйшыя, вера, у якой я не меў уласнага пераканання.

Па-другое, кампанія маіх сяброў-аднагодкаў. Яны былі далёка ад касцёла. Мы мелі іншыя погляды на тое, як варта праводзіць свой час. У нас былі розныя новыя захапленні: хіп-хоп культура, музыка, танцы, звязаныя з ёй. Таксама мяне захапілі камп'ютарныя гульні, ім я прысвячаў шмат часу. Былі дыскатэкі, пошукі новых знаёмстваў. Я дзіўлюся, як Бог захаваў мяне ў гэты перыяд ад нейкіх цяжкіх і агідных грахоў. Але тады здавалася, што рэлігійнае жыццё і вера – гэта нешта неістотнае і непатрэбнае ў маім жыцці.

Да 16 гадоў я кіраваўся іншымі інтарэсамі, будаваў, як мне здавалася, больш цікавае, прыемнае жыццё.

**– Як адбылося Вашае вяртанне ў Касцёл?**

– У Касцёл мяне вярнула смерць бабулі. Дзядуля і бабуля жылі побач з намі, таму я праводзіў у іх вельмі шмат часу: там я вучыў урокі, там я начаваў, там мог жыць па некалькі дзён. Бабуля стала для мяне другой мамай. Калі яна памерла, мне было вельмі цяжка, і ўсё здавалася бессэнсоўным: і мае сябры, і жыццё, якое я вёў.

У той момант з’явілася думка: “Калі ўсё заканчваецца смерцю, то навошта ўвогуле штосьці рабіць, да чагосьці імкнуцца?” Адказы на гэтыя пытанні я знайшоў у Касцёле. Бо Касцёл казаў пра вечнае жыццё, пра тое, што смерць – не канец. Гэта былі словы надзеі, я зноў пачаў іх шукаць, зноў пачаў маліцца, задаваць Богу пытанні. І тады Бог з вялікай моцай пачаў дзейнічаць у маім жыцці.

**– Як праяўлялася тое Божае дзеянне?**

– Літаральна праз месяц пробашч маёй парафіі прапанаваў паехаць на “Дзень адчыненых дзвярэй” у Пінскую семінарыю. Я тады ўвогуле не ведаў, што такое семінарыя. Убачыў шмат маладых людзей, пачуў спевы семінарыйнага гурта “Подых Духа”. Там я ўсвядоміў, што Касцёл – гэта штосьці жывое, тое, чаго я не ведаў раней.

А потым мая знаёмая запрасіла мяне ў пілігрымку з Баранавіч у Будслаў. Я не ведаю як, але я згадзіўся. Самае цікавае, што я пайшоў, а тая сяброўка не пайшла.

І я крочыў паўдня адзін, нікога не ведаў, ні з кім не размаўляў. А потым да мяне падышла дзяўчына і запрасіла ў сваю кампанію. Так распачаліся дзевяць дзён маёй пілігрымкі, якія вельмі мяне змянілі.

**– А ці памятаеце Вы свой першы фэст у Будславе?**

– Шчыра кажучы, не памятаю. Усе яны зліліся ў адзін вялікі ўспамін, бо на працягу наступных дзесяці гадоў я хадзіў у Будслаў з Баранавіч і нават з Брэста. Для мяне больш істотным быў сам шлях, знаёмствы з аднадумцамі. Гэта была магчымасць вырвацца з кантэксту звычайнага жыцця і перажываць сваю веру зусім інакш.



Пілігрымкі для мяне сталі духоўнай зарадкай, батарэйкай, адкуль я чэрпаў энергію на ўвесь год і ажываў духоўна. У Будславе заўсёды ўражвала начная працэсія са свечкамі і неверагодная колькасць людзей, начныя чуванні, канцэрты. Там я бачыў людзей з іх жывой верай і гэта натхняла.

**– Калі Вы зразумелі, што Бог кліча за Сабой?**

– Сваё пакліканне я адчуў, яшчэ калі першы раз патрапіў у Пінскую семінарыю. Там я ўбачыў маладых хлопцаў, якія згадзіліся менавіта так перажываць свой жыццёвы шлях. У сэрцы я разумеў, што таксама хачу пайсці гэтай дарогай, што яна мне падабаецца, што на гэтую дарогу мяне запрашае Бог.

**– У якую семінарыю паступалі і чаму?**

– Я паступаў у Пінскую семінарыю. На той момант гэта быў адзіны шлях служэння Богу, які быў мне вядомы. Па-першае, я быў з Пінскай дыяцэзіі, а па-другое, меў брашурку са спісам дакументаў для паступлення. Гэтая інфармацыя вельмі мне дапамагла.

**– Якім было Вашае семінарыйнае жыццё?**

– Вучыцца ў семінарыі было нескладана, бо я меў здольнасці. Ужо сёння я разумею, што з-за сваёй маладосці шмат часу я змарнаваў.

У семінарыйным жыцці ўзгадваецца шмат цікавых момантаў. Напрыклад, кожныя паўгода мы жылі ў розных пакоях з рознымі братамі ў пакліканні. Гэта было зроблена для таго, каб навучыцца жыць у розных умовах з рознымі людзьмі. Паколькі большасць семінарыстаў – маладыя людзі, быў час і для весялосці, і для жартаў.

Мне вельмі падабалася, што мы маглі рэалізаваць сябе ў творчых напрамках. Хтосьці спяваў ці іграў у музычным гурце “Подых Духа”, хтосьці заглыбляўся ў розныя прадметы, хтосьці служыў у валанцёрскіх праектах.

Былі і крызісы. Але мяне ратавала дзіўная звычка: звечара я некалькі разоў пісаў заяву на акадэмічны адпачынак або каб адысці з семінарыі. А раніцай прачынаўся і прыходзіла думка, што не ўсё так дрэнна, што яшчэ магу застацца ў семінарыі – і заставаўся.

Увогуле, першыя гады ў семінарыі я задаваў сабе пытанне : навошта я тут? Сапраўдная свядомасць паклікання з’явілася, калі пасля трэцяга курса я паехаў на практыку ў Гомель.

**– Што такога незвычайнага было на той практыцы?**

– Там я ўбачыў людзей. Гэтыя людзі не проста чыталі Евангелле, але і жылі ім.

Я зразумеў, што жыццё Божым словам – гэта не тэорыя, не ідэя, гэта цалкам магчымае жыццё ў супольнасці людзей, у Касцёле. Пасля трэцяга курса я пачаў усведамляць, што Бог не памыліўся, а святарства – маё сапраўднае пакліканне.

**– Падчас вучобы ў семінарыі ці прыходзіла да Вас думка пра манаскае жыццё?**

– Думкі пра манаства пачалі з’яўляцца на пачатковых курсах семінарыі. Я для сябе адкрыў, што апроч шляху дыяцэзіяльнага святарства ёсць шлях манаскага жыцця, мяне гэты шлях захапіў. Я захацеў быць манахам, але не ведаў, у якім ордэне. Таму пайшоў да першых манахаў, каторых сустрэў. Гэта былі кармеліты. Яны вучыліся з намі ў семінарыі. Я прыйшоў да духоўнага айца, каторы быў кармелітам, і сказаў: “Вось я, прымайце мяне”.

Але айцец быў мудры і прапанаваў спачатку падумаць і запэўніў: калі ёсць манаскае пакліканне, то з часам яно нікуды не дзенецца.

Крыху пазней я паехаў у Рым, там сустрэўся з манахам-бэнэдэктынцам. Ён распавёў мне, што спачатку 33 гады быў дыяцэзіяльным святаром, а толькі потым пайшоў у манастыр. Тады падумаў: “Значыць, і я маю час, няма куды спяшацца”.

Трэба сказаць, я часта разважаў над паклікannem да манаскага жыцця. Разважаў і над кантэпляцыйнымі кляштарамі, там, дзе браты праводзяць усё жыццё ў маўчанні, і над законамі, дзе ўвогуле няма кляштараў, а браты жывуць у беднасці, прапаведуючы Евангелле. Між тым працягваў вучобу ў дыяцэзіяльнай семінарыі.

**– А што было пасля таго, як вучоба ў семінарыі скончылася?**

– Пасля заканчэння семінарыі было размеркаванне. Я чакаў, у якую парафію мяне прызначыць біскуп, але быў яшчэ замалады, каб прыняць сакрамант святарства – не меў 24 гадоў.

Тады я вельмі хацеў у Гомель. На той момант мне гэта здавалася немагчымым. Але я маліўся, і нечаканай ласкай для мяне стала, што біскуп прызначыў мяне ў Гомель. Паўгода я служыў там дыяканам: вёў катэхезу, праводзіў набажэнствы, знаёміўся з пачаткам сапраўднага душпастырскага служэння.

Святарскае пасвячэнне я атрымаў 21 лістапада 2017 года і застаўся вікарыем у Гомелі. Гэта быў цікавы, цудоўны досвед служэння. Я сустрэў людзей, якія самі ў дарослым узросце адкрывалі Бога і свядома шукалі з Ім адносінаў.

Я вельмі ўдзячны маім першаму пробашчу. У Гомельскай парафіі мы служылі ўдваіх, бліжэйшы святар жыў недзе за 70 кіламетраў ад нас. Ксёндз-пробашч арганізаваў наш побыт так, што была і малітва, і разважанне над Божым словам, і насычанае духоўнае жыццё. І ўсё гэта ў сапраўдным братэрскім духу. Мне вельмі падабалася там служыць, але біскуп прыняў рашэнне накіраваць мяне на вучобу, што стала пачаткам пераменаў.

**– Што гэта была за вучоба?**

Я распачаў вучобу ў Люблінскім каталіцкім універсітэце і меў святарскае служэнне ў Брэсце, у парафіі Узвышэння Святога Крыжа. Так атрымалася, што тры дні на тыдзень я быў студэнтам, чатыры дні – вікарыем у парафіі. Гэта было цяжка фізічна і псіхалагічна. Я стараўся па магчымасці спалучаць служэнне ў парафіі і вучобу. Мне здаецца, што напружанне з гэтага часу і стала адной з прычынаў духоўнага крызісу. Менавіта тады Бог пачаў дзейнічаць у маім жыцці вельмі цікавым чынам. Я зразумеў, што калі не ратаваць сваё святарства, паглыбляючы духоўнасць, то ўнутры з'яўляецца пустка. Гэтую пустку я адчуваў, хоць знешне спраўляўся са сваімі абавязкамі, многія рэчы ў мяне атрымліваліся, людзі былі ўдзячнымі за служэнне. Але я адчуваў, што не магу ўжо даваць іншым, бо сам нічога ўнутры сябе не маю.

**– Ці адчувалі Вы Божае дзеянне падчас гэтага крызісу?**

– Так, дзеянне гэтае было вельмі моцным. Я ўспомніў пра пакліканне да манаскага жыцця. І на той момант мне здалося, што гэта адзінае выйсце.

**– І вы з лёгкасцю пакінулі ўсё і пайшлі ў манастыр?**

Не, гэта быў сапраўды цяжкі крок. Я ўжо скончыў семінарыю, меў святарскае служэнне, а зараз патрэбна было наноў распачынаць фармацыю ў манастыры. Гэта як быццам дарослы чалавек вяртаецца ў дзіцячы садок. Не адзін месяц я разважаў над гэтым.

**– Чаму Вы вырашылі пайсці менавіта да капуцынаў?**

Акурат у той час у нашую парафію прыехаў святар, які некалькі месяцаў жыў у гэтай супольнасці. Яму падабаліся капуцыны, ён часта іх хваліў і захапляўся. Тады я пачаў цікавіцца гэтым ордэнам, чытаць пра іх жыццё, фармацыю і харызмат. Тое, што я даведаўся, мне вельмі спадабалася. Тым больш, што я і раней захапляўся духоўнасцю святога Францішка. ⇒




Тады я задумаўся: "А чаму не"? І вырашыў паразмаўляць і з біскупам, і з настаяцелем ⇐ капуцынаў пра тое, чаго я хачу і чаго шукаю.

**– Як адбыўся ваш пераход да капуцынаў?**

Я сустрэўся з тагачасным кусташам капуцынаў у Беларусі, і пасля гэтай сустрэчы ведаў, што браты гатовыя прыняць мяне на фармацыю. Справа заставалася за адным: размаўляць з біскупам. Паводле кананічнага права, я мог разлічваць, што біскуп дазволіць мне пайсці з дыяцэзіі і распачаць манаскую фармацыю. Для мяне важнай была гэтая паслухмянасць. Гэтая справа расцягнулася прыкладна на дзевяць месяцаў. У гэты час я з дазволу біскупа мог прыбываць у розных парафіях, дзе служылі капуцыны: у Маладзечне і Докшыцах. Там я знаёміўся з бытам і жыццём братоў.

Што цікава, доўгачаканы дазвол я атрымаў акурат за некалькі дзён да распачацця навіцыяту. Мне давялося вельмі хутка збіраць рэчы, вырашаць справы і ехаць у Польшчу, каб распачынаць там манаскую фармацыю.

**– Якімі сталі для Вас першыя крокі ў манастве?**

– Навіцыят – гэта год пачатковай фармацыі з даволі вялікімі абмежаваннямі ў кантактах са знешнім светам. У гэты час я прыняў манаскае адзенне і паглыбляў свае веды пра харызмат і духоўнасць святога Францішка. Для мяне гэта быў шанец, каб перажыць нанова многія моманты, якія праз маладосць прапусціў у пачатковай фармацыі ў семінарыі.

Як удавалася знайсці агульную мову з хлопцамі, якія толькі распачыналі свой шлях да святарства? Я вельмі лёгка прымаю іншых людзей, таму не было асаблівых цяжкасцяў у стасунках з братамі. Праўда, здараліся цікавыя сітуацыі. Маладыя хлопцы маюць вельмі высокія ідэалы. Не ў значэнні "высокія духоўна", а свае асабістыя ідэальныя схемы духоўнага жыцця. Я сутыкаўся з прэтэнзіямі, што не так малюся, ці нешта раблю не так. З досведу майго служэння гэта выглядала крыху смешна.

**– А ці неслі Вы падчас навіцыяту святарскую паслугу?**

– Цікава, але падчас навіцыяту я меў пэўныя абмежаванні: не мог самастойна адпраўляць святую Імшу (толькі канцэлебраваць), казаць гаміліі і спавядаць. Напачатку гэта стала для мяне выпрабаваннем, але потым я зразумеў, што ўся святарская ўлада і магчымасць служэння, якія я маю, не з'яўляюцца маёй уласнасцю. Маё святарства – гэта ўласнасць Бога, дадзеная праз Касцёл. І калі Касцёл кажа: "Пачакай", то я не магу мець ні бунту, ні прэтэнзіі. Я магу толькі прыняць такое рашэнне. Тут я вучыўся пакоры і адказам на пытанні: "Кім я ёсць і чаго я хачу".

**– Як склалася Ваша жыццё пасля заканчэння навіцыяту?**

– Пасля складання першых часовых шлюбаў было прынята рашэнне скіраваць мяне на вучобу. Дакладней, я павінен быў скончыць навучанне ў Люблінскім універсітэце. Я зноў стаў студэнтам і скончыў вучобу. Засталося толькі напісанне і абарона доктарскай працы. Але пры гэтым я жыў у супольнасці капуцынаў, меў чарговы год пачатковай фармацыі. У гэты час прызвычайваўся да жыцця ў кляштары і супольнасці. Там было вельмі шмат паслуг бедным, убогім, галодным, хворым. Увогуле гэта вельмі тыпова для капуцынаў – ісці туды, куды ніхто не хоча ісці.

**– Ці мелі Вы нейкае паслабленне ў сувязі з тым, што прыйшлі ў закон ужо будучы святаром?**

– Увогуле фармацыя ў капуцынаў выглядае наступным чынам: год пастулату – калі чалавек з'яўляецца кандыдатам на паступленне ў ордэн; пасля ідзе навіцыят, калі манах атрымлівае адпаведнае адзенне і перажывае больш інтэнсіўны час харызматычнай фармацыі, а пасля складае першыя абяцанні жыць паводле Евангелля ў чысціні, паслухмянасці і беднасці; наступныя два гады – гэта больш поўнае вывучэнне гісторыі ордэна, паглыбленне ў харызматычнае жыццё. Звычайна на другі год гэтага перыяду тыя, хто хоча ісці ў семінарыю, ідуць туды. У маім выпадку ў семінарыю ісці было не трэба, але я разам з братамі перажываў гэты час, каб не толькі знешне стаць капуцынам, але і змяніць свой пады ход да жыцця.

Зараз я якраз распачынаю другі год пасля навіцыяту. Гэта чацвёрты год пачатковай капуцынскай фармацыі.

**– Што б сёння Вы сказалі маладому чалавеку, які адчувае голас пакліканння, але па нейкіх прычынах не можа вырашыцца на гэты крок?**

– Я перакананы, што праўдзівае пакліканне можна выбраць тады, калі ведаеш і адну, і другую дарогі. І калі не паспрабаваць дарогу духоўнага жыцця, то ніколі не даведаешся, ці твая гэта дарога. Таму, калі маеш у сэрцы хоць намёк на пакліканне, варта паспрабаваць вырушыць гэтым шляхам, каб адкрыць яго для сябе.

*Размаўляла*
***Вікторыя Філіпенка***

# Базыль Вялікі. Чаму "Вялікі"?

**Базыль Вялікі з'яўляецца пасля Атаназія другім з чатырох вялікіх айцоў Усходняга Касцёла. Ён сапраўды заслугоўвае таго, каб так яго называлі па меншай меры па трох прычынах.**



Базыль Вялікі перш за ўсё таму, што, як і Атаназій, ён выдатна спраўляўся з роляй біскупа ў сітуацыі вялікага замяшання, спрэчак і ўзаемных абвінавачванняў у эрасі сярод кіраўнікоў касцельных супольнасцяў. Ён таксама ў адносна маладым узросце стаў біскупам вялікай па значэнні правінцыі Цэзарэі і мітрапалітам усёй Кападокіі. Ён эфектыўна арганізаваў падпарадкаваны яму епіскапат, прызначаючы біскупамі сваіх сяброў, г.зн. людзей, тэалагічныя погляды якіх ён выдатна ведаў. Ён арганізоўваў сіноды і забяспечваў адзінства з каталіцкім прававерным вучэннем.

Другой прычынай, па якой Базыль цалкам заслужыў тытул Вялікі, з'яўляецца яго багаты тэалагічны вопыт.

**Базыль атрымаў вельмі грунтоўную класічную адукацыю.**

Ён паходзіў з заможнай святарскай сям'і. Гэта сям'я была не толькі заможнай, але і пабожнай. Усе яе чальцы клапаціліся пра адукацыю, выхаванне і ўзрастанне ў хрысціянскай веры сваіх дзяцей.

Базыль першапачаткова атрымаў адукацыю ў Кападокіі, потым паехаў вучыцца ў Афіны. Там ён набыў веды па рыторыцы і філасофіі, якія пазней аказаліся вельмі прыдатнымі для тлумачэння цяжкіх і складаных праўдаў веры. Ён пакінуў пасля сябе твор "Пра Духа Святога", а таксама шмат лістоў, у якіх тлумачыць складаныя тэалагічныя пытанні. Гэтыя творы і сёння з'яўляюцца "ежай" для тэолагаў.

І, нарэшце, трэцяя прычына, чаму Базыль названы Вялікім, – гэта глыбокае духоўнае жыццё, якое ён вёў.

**Першапачаткова ён прысвяціў свой час вывучэнню не толькі свецкіх навук, але таксама Святога Пісання, чытаў шмат тэкстаў настаўнікаў духоўнага жыцця.**

На той час Касцёл ужо меў даволі багатую спадчыну ў гэтай сферы, бо ўжо мінулі часы Арыгена і першых айцоў-пустэльнікаў, з'явіліся першыя тэксты пра малітву і духоўнае жыццё. Базыль сам арганізаваў у сваім радавым маёнтку пустэльню, дзе праводзіў свой вольны час. Ён, калі быў ужо біскупам, шматразова пакідаў сваю біскупскую катэдру, каб правесці доўгія месяцы ў адасабленні, у глыбокім духоўным жыцці. Ён таксама быў настаўнікам для тых, хто хацеў цалкам прысвяціць сябе вывучэнню Святога Пісання і малітве, г.зн. для манахаў. Ён арганізаваў першыя манаскія супольнасці, напісаў "Манаскія правілы" для тых, хто хацеў прыняць такі лад жыцця. Да сённяшняга дня на Усходзе фактычна існуе толькі адзін манаскі ордэн – базыльянаў, які жыве паводле правілаў св. Базыля.

Такім чынам, тры прычыны – эфектыўнасць касцельнай арганізацыі, тэалагічныя веды і духоўны вопыт – робяць яго сапраўды вялікім айцом Касцёла.

**Святая сям'я**

Гаворачы пра Базыля, варта згадаць яго сям'ю, бо ўсе былі прызнаныя святымі.

Яго бабуля – Макрына – была вучаніцай вялікага александрыйскага настаўніка Грыгорыя Цудатворца, шмат уклала ў яго хрысціянскую веру. Яна была для яго прыкладам сапраўды сталай веры. Сам Базыль сведчыць, што такое ўвогуле здараецца нячаста, але яго сям'я сапраўды мае прывілей і радасць, бо гаспадыня дома, бабуля Макрына, – вельмі чулы чалавек з глыбокім духоўным жыццём, які не навязвае сваю пазіцыю і спрыяе духоўнаму ўзрастанню тых, хто прыходзіць у яе сям'ю.

Бацькі Базыля Вялікага – Базыль і Эмілія – таксама былі людзьмі вельмі пабожнымі, прычым з падкрэслена здаровай пабожнасцю, якая засяроджвалася на паслухмянасці Евангеллю і вельмі простым выкананні запаведзі любові. Верагодна, гэта вельмі выразны знак таго, што Евангелле ў іх доме не было "вайсковай зброяй" або пустым гукам, але на самай справе яно праяўлялася ў практычным жыцці братэрскай любоўю.

**Слугі тых, хто мае патрэбу**

Сам Базыль, апрача вялікіх касцельных спраў, надаваў шмат увагі звычайнаму штодзённаму служэнню бедным, тым, хто ў патрэбе. Фактычна ў сваёй дыяцэзіі ён стварыў першы хрысціянскі Цэнтр дапамогі людзям у патрэбе, які ад яго імя атрымаў назву Базыліяда. Там ён прымаў пілігрымаў, пажылых і бедных людзей.

Трэба, аднак, адзначыць, што ў гэтай галіне яшчэ больш заслугі меў родны брат Базыля – Наўкратый, – які арганізаваў пустэльню побач са сваім домам. Там ён жыў са слугой, які хацеў пераймаць лад жыцця свайго гаспадара, там таксама знаходзіліся людзі сталыя і хворыя. Гэта была супольнасць накшталт першага "Каўчэга", які заснаваў і якім кіраваў вядомы філасаф і тэолаг Жан Ванье. Такая супольнасць злучала ў адно пры дапамозе цноты любові здаровых людзей з хворымі.

Наўкратый прысвяціў усё сваё жыццё, працу і вольны час клопату пра тых, хто мае патрэбу. На жаль, гэты праект трываў нядоўга. Аднойчы, ідучы на рыбалку, каб забяспечыць ежай тых, хто знаходзіўся пад яго апекай, Наўкратый патануў. Так трагічна загінуў у вельмі маладым узросце руплівы слуга бедных.

**Брат і сястра**

Яшчэ адзін брат Базыля – Грыгорый Ніскі – і яго сястра Макрына малодшая таксама прысвяцілі сябе касцельнаму жыццю. Грыгорый стаў біскупам, хоць жыў у шлюбе і ў сям'і, а яго сястра арганізавала пустэльню, вядучы манаскае жыццё. Да Макрыны далучылася пасля смерці мужа яе маці, стаўшыся падначаленай уласнай дачкі.

Мы бачым, што сям'я Васіля сапраўды была святой і жыла хрысціянскімі каштоўнасцямі.

***Кс. Павел Эйсмант***

# Парализованный мастер изготовил коляску для Папы Франциска

**Поль де Леврон подарил Папе Франциску уникальное кресло-коляску собственного производства. Древесина из собора Нотр-Дам-де-Пари, из России и Украины, реликвия блаженного Карло Акутиса и символические элементы дизайна этого кресла делают его единственным в своем роде.**

5 мая 2022 года из-за боли в колене Папа Франциск впервые появился на публике в инвалидной коляске. Этот факт не ускользнул от внимания 31-летнего Поля де Леврона, который и сам передвигается в инвалидной коляске, потому что десять лет назад после падения в ручей его ноги парализовало.

Поль был просто шокирован видом инвалидной коляски Папы: "Её никак не назовёшь ни красивой, ни удобной! Папа выглядит в ней как маленький старичок из дома престарелых. А ведь он – глава Католической Церкви, один из самых влиятельных людей на планете! И ему ещё далеко до пенсии", – говорит Поль.



Полю пришлось отказаться от своей мечты стать лесным инженером. Но он не потерял любви к дереву, он настоящий мастер – "золотые руки". В марте 2022 года он начал делать деревянные инвалидные коляски, создав свою компанию "Кресла-коляски "Аполло"".

### Коляски, наделённые "суперсилой"

Он разработал инновационную технологию производства кресел-колясок из дерева – материала, который уже более ста лет не использовался для медицинского оборудования. В чём секрет? Деревянные рейки выдалбливают изнутри для легкости, вырезают по форме и склеивают вместе.

"Новизна состоит, прежде всего, в том, что мои коляски создаются путём наращивания слоёв, подобно тому, что делает 3D-принтер, а не путём простого соединения цельных частей, как это делалось в прошлом для создания деревянных кресел-колясок и как делается сегодня при их производстве из металла", – объясняет мастер.

В дополнение к техническому совершенству эти кресла-коляски обладают "суперсилой": их чистый и тёплый дизайн меняет взгляд окружающих на того, кто сидит в кресле: "Его эстетичный вид заставляет окружающих поменять свой взгляд на тебя. И позволяет тебе лучше относиться к самому себе", – свидетельствует Поль. "Моя деревянная инвалидная коляска стала настоящим хитом среди прохожих!" – вспоминает он.

Успех пришёл в Париже, но также и онлайн. В октябре 2022 года Поль поделился видео, которое за несколько дней набрало тысячи просмотров и помогло завязать множество контактов. Затем он создал ещё одну – и ещё лучшую, коляску для себя, и был готов к следующему вызову своему мастерству. Вскоре он увидел Папу Франциска в инвалидной коляске и понял: вот она, новая цель: кресло-коляска для Папы!

### Кресло-коляска для Папы

Не каждый может стать поставщиком Папы. Поля поддержали несколько священников, которые отнеслись к его проекту с большим энтузиазмом. Первый познакомил его с Апостольским нунцием во Франции Архиепископом Челестино Мильоре. Встал вопрос: сделать ли Папе приятный сюрприз или лучше предупредить его заранее. Поль понял, что лучше пойти вторым путём и поэтому отправился в Рим. 3 мая 2023 года после Общей аудиенции Поль в сопровождении кардинала Паролина, который был осведомлён о проекте, встретился с Папой и рассказал ему о своём желании создать кресло-каталку, достойное его положения.

Он показал ему модель будущего кресла и спросил, хочет ли он иметь такое. "Папа взял модель в руки и некоторое время, как ребёнок, играл с её колёсиками, а потом улыбнулся и сказал: "Принимаю. С кем нужно связаться?"

### Подлокотники из дерева из Нотр-Дам-де-Пари

Этот проект стал настоящим вызовом для Поля. Нужно было приложить усилия, чтобы всё получилось так, как он планировал. Эта вещь должна была быть со смыслом! Как этого добиться? Например, включить в конструкцию кресла древесину из потолочных частей собора Нотр-Дам-де-Пари!

Получить два куска такого дерева, спасённого при пожаре 15 апреля 2019 года, который серьёзно повредил собор, было нелёгкой задачей. Но и в этом Полю помогли. Парижский священник посоветовал ему обратиться к Архиепископу Парижа Лорану Ульришу. "После часовой беседы Архиепископ сказал, что постарается мне помочь, и позднее со мной связался генерал Жоржелен (который отвечал за работы по восстановлению собора вплоть до своей гибели от несчастного случая 18 августа 2023 года. – Прим. ред.). Ему удалось добыть достаточно дерева для изготовления двух подлокотников".

Два куска обугленной балки из конструкций Нотр-Дам-де-Пари были доверены Полю для изготовления подлокотников кресла-каталки для Папы. Для Поля эти два куска дерева, "современники св. Франциска Ассизского, заступничеству которого Папа вручил свой понтификат", являются также символом стойкости. "Из старого материала, который стал непригоден к использованию, мы добываем то, что необходимо для создания нового медицинского оборудования", – объясняет он.

### Символы мира и Святого Духа

Поля долго мучил вопрос: как украсить подставку для ног. И он остановился на фигурке голубя, чтобы поддержать



Папу в его миссии по содействию миру между народами. Не говоря уже о том, что часть берёзовой фанеры, использованной для создания кресла, была произведена в России, а часть – в Украине. Голубь – символ Святого Духа, изображён Полем в ореоле из семи лучей, символизирующих семь Его даров.

### Реликвия во благо

В качестве ещё одного символического жеста Поль вмонтировал в кресло перечень всех символов, которые несёт в себе это кресло, и реликвию блаженного Карло Акутиса, которому он вверил проект после своей встречи с Папой. Для Поля блаженный Карло – это юный святой, "такой же компьютерщик", как он сам, который оставил свой след тем, что пожертвовал все свои страдания за Папу и Церковь.

Кресло-каталка было без лишней помпы доставлено Папе, когда тот был в Марселе. Для Поля это большое облегчение: он беспокоился от одной мысли, что Папа будет испытывать кресло в его присутствии. Тем не менее, он удостоился чести личного приветствия после Мессы на велодроме. И конечно, все, кто был причастен к проекту или внёс свой вклад, будут ревностно следить за следующими появлениями Папы на публике.

14 сентября Архиепископ Челестино Мильоре приехал к Полю де Леврону, чтобы испытать кресло, предназначенное для Папы.

### "Господь готовит великие дела"

До сегодняшнего дня Поля воодушевляет то слово, которое он получил во время молитвы исцеления в церкви Сен-Никола-де-Шан в Париже в ноябре 2019 года. "Я прятался в самом дальнем углу храма, когда ко мне пришло "откровение". Оно говорило: "Господь готовит великие дела для человека с парализованными ногами". Это послание вошло прямо в сердце. "Оно принесло мне так много доброго! Оно и сегодня остаётся движущей силой моей надежды и укрепляет меня в выборе оставаться в распоряжении Бога для осуществления Его планов", – говорит он.

Недостатка в проектах нет. Несколько месяцев назад он летал в Калькутту, чтобы навестить сестёр Миссионерок милосердия. Эта поездка потрясла его до глубины души: "Я был в своём супер-кресле, которое позволило мне отправиться на другой конец мира, и столкнулся с людьми, такими же, как я, которые живут в интернате и вообще не имеют своего кресла! Именно из этого опыта родился проект по созданию красивых, удобных и недорогих деревянных кресел".

*Рускатолик*

# В Барселоне почти завершили строительство башен собора Саграда Фамилия

**Возведение собора Святого Семейства, или Саграда Фамилия, в Барселоне почти закончилось: рабочие построили пять центральных башен спустя 141 год после начала работ. Об этом сообщает пресс-служба храма.**

В конце сентября на башне евангелиста Матфея установили последнюю деталь, служащую его олицетворением в христианской традиции, – скульптуру человека. На следующий день еще одну башню увенчали фигурой орла, являющейся символом евангелиста Иоанна.

В пресс-службе храма уточнили, что 12 ноября пройдет торжественная Месса, в ходе которой башни впервые осветят. Во время рождественских праздников конструкции будет украшать праздничная подсветка.

Учитывая задумку архитектора Антонио Гауди, собор будет состоять из 18 башен. 12 из них посвящены апостолам, четыре – евангелистам, остальные две – Иисусу Христу и Деве Марии. Достроенные на днях башни – третьи по высоте в храме. Они окружают фигуру Христа высотой 135 метров.



Планируется, что храм, который начали возводить в 1882 году, достроят в 2026 году – к столетию со дня смерти Гауди. К этому времени закончат работу над шестой центральной башней.

*По материалам m24.ru*

# Віцебская дыяцэзія. Тэст




**1 Кім была створана Віцебская дыяцэзія?**



**А.** Святым Папам Янам Паўлам ІІ
**Б.** Папам Бэнэдыктам XVI
**В.** Папам Паўлам VI

**2 Які касцёл стаў першым катэдральным касцёлам Віцебскай дыяцэзіі?**



**А.** касцёл Святога Андрэя Баболі ў Полацку
**Б.** касцёл Езуса Міласэрнага ў Віцебску
**В.** касцёл Святой Барбары ў Віцебску

**3 Колькі санктуарыяў знаходзіцца ў Віцебскай дыяцэзіі?**



**А.** 1
**Б.** 3
**В.** 5

**4 Які з каранаваных абразоў знаходзіцца ў Віцебскай дыяцэзіі?**



**А.** Маці Божай Студэнцкай
**Б.** Маці Божай Браслаўскай
**В.** Маці Божай Шкаплернай

**5 Хто з пералічаных святых з'яўляецца апекуном Віцебскай дыяцэзіі?**



**А.** Язафат Кунцэвіч
**Б.** Андрэй Баболя
**В.** Максіміліян Марыя Кольбэ

**6 У Віцебскай дыяцэзіі праходзіў міжнародны фестываль "Magnificat". Якому віду мастацтва ён быў прысвечаны?**



**А.** Музыцы
**Б.** Тэатру
**В.** Кіно

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

**7 Якія з пералічаных СМІ працуюць у Віцебскай дыяцэзіі?**



**А.** Ave Maria
**Б.** Слова Жыцця
**В.** Каталіцкі Веснік

**8 Колькі біскупаў было ў Віцебскай дыяцэзіі ад яе стварэння?**



**А.** 1
**Б.** 2
**В.** 3

**9 У якім з касцёлаў Віцебскай дыяцэзіі знаходзіцца сутана святога Яна Паўла ІІ?**



**А.** касцёл Нараджэння Маці Божай у Браславе
**Б.** касцёл Святой Тройцы ў Росіцы
**В.** касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і Св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах

**10 У якім годзе кс. Алег Буткевіч стаў біскупам Віцебскім?**



**А.** 2013
**Б.** 2014
**В.** 2010

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

# Парафіяльная ўрачыстасць у Лужках

**29 верасня ў Дзень святых Арханёлаў у парафіі святога Арханёла Міхала ў Лужках адбылася адпустовая ўрачыстасць. На свята завіталі вернікі з Глыбокага, Наваполацка, Дзісны, Германавіч. Прыехалі святары з Мёраў, Шаркаўшчыны, Глыбокага, Ушачаў, Германавіч і сёстры законныя з Наваполацка. Усіх прысутных шчыра прывітаў пробашч парафіі ксёндз Іван Кароткін.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Урачыстую святую Імшу ў інтэнцыі ўсёй парафіі цэлебраваў ксёндз Андрэй Кулік – дэкан Мёрскага дэканата. Гамілію прамовіў ксёндз Мікалай Ціхановіч. Развіваючы тэму свята, ксёндз Мікалай нагадаў вернікам, што духоўны свет рэальны. Падчас святой Імшы мы славім Усемагутнага Бога разам з анёламі і арханёламі, з намі разам моліцца Багародзіца. Свята святога Арханёла Міхала нагадвае нам, што сатана быў зрынуты з неба на зямлю праз сваю пыху. Хто паддаецца гардыні, той знішчае сябе. Святар перасцярог вернікаў аб небяспецы забабонаў, магіі, загавораў, чараўніцтва, прывёў канкрэтныя прыклады з практыкі экзарцыста. Ксёндз Мікалай па-айцоўску параіў супрацоўнічаць з анёламі, маліцца да Анёла-ахоўніка, да Арханёлаў, раіцца з імі ў розных жыццёвых сітуацыях, заклікаць іх на дапамогу, бо прысутнасць анёлаў жывая і рэальная.

Пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце вернікі памаліліся Літанію да святога Арханёла Міхала.

Ксёндз Іван Кароткін выказаў словы падзякі, святарам, хору, удзельнікам свята, усім, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі парафіяльнай урачыстасці. А завяршылася яна Эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла і спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем!"



# Святы Айцец моліцца і благаслаўляе Беларусь

**13 кастрычніка, падчас пасяджэння Генеральнай Асамблеі Сіноду Біскупаў, якая праходзіць у Ватыкане, прадстаўнік Касцёла ў Беларусі на Сінодзе біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB прывітаўся з Папам Францішкам, паведамляе catholic.by.**

Праз беларускага іерарха Святы Айцец перадаў словы прывітання і благаслаўленне для беларусаў.

**"Вітаю ўсіх вас! Няхай Пан шчодра благаслаўляе вас. Малюся за вас, за ўсю Беларусь, і вы маліцеся за мяне. Дзякуй!"**

— сказаў Папа Францішак і з гэтымі словамі, запісанымі на відэа, благаславіў усіх беларусаў.

"Дзялюся з вамі гэтым дарам Папы для ўсіх нас і заахвочваю да малітвы ў інтэнцыі Святога Айца", — перадае біскуп Аляксандр Яшэўскі з Рыма.




## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Барок**, **імяніны** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча);*

**6 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія);*

**11 лістапада** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя);*

**12 лістапада** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча);*

**13 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў);*

**14 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль);*

**19 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Генадзій Ляўкоў;**

**20 лістапада** – **дзень біскупскай сакры** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін;**

**23 лістапада** – **імяніны** адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск);*

**30 лістапада** – **імяніны** адзначаюць **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, *Дырэктар Нацыянальнага Карытас*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай);* **дзень нараджэння** адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск).*

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Рэліквіі святога Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага прыбылі ў Глыбоцкую парафію

**У нядзелю, першага кастрычніка, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім перажывалі важную і радасную падзею. Падчас Імшы а 13 гадзіне адбылося ўрачыстае ўнясенне ў святыню і ўшанаванне рэліквій святога Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага.**

■ **Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Зыгмунт Шчэнсны нарадзіўся ў 1822 годзе ў Ваюціне на Валыні. Выхоўваўся ў рэлігійна-патрыятычнай атмасферы, з маленства ўшаноўваў і любіў Маці Божую. Паступіў у духоўную семінарыю і ў 1855 годзе прыняў святарскае пасвячэнне ў Санкт-Пецярбурзе.

У 1857 г. ён заснаваў Кангрэгацыю сясцёр-францішканак Сям'і Марыі, якой даручыў апеку над дзецьмі, хворымі і старымі. Памёр у Арцыбіскупскім палацы ў Кракаве 17 верасня 1895 г. Арцыбіскуп Зыгмунт Шчэнсны Фелінскі быў беатыфікаваны 18 жніўня 2002 г. св. Янам Паўлам II у Кракаве. Кананізацыю ў кастрычніку 2009 г. здзейсніў Папа Бэнэдыкт XVI.

Сёстры-францішканкі Сям'і Марыі служаць у Беларусі з 1990 года і маюць дамы ў Варапаеве і Глыбокім.

Перад Імшой сабраным вернікам прапанавалі прэзентацыю пра жыццёвы шлях святога арцыбіскупа, а таксама пра заснаванне і служэнне Кангрэгацыі сясцёр-францішканак. Імша распачалася з урачыстага ўнясення рэліквій і прывітальнага слова пастыра Віцебскай дыяцэзіі біскупа Алега Буткевіча, які ўзначаліў цэлебрацыю.





Трэба зазначыць, што разам з запрошанымі святарамі і законнымі сёстрамі на свяце прысутнічалі асаблівыя госці: Маці Генеральная с. Малгажата Бурэк, генеральны вікарый с. Ванда Мікіцка, генеральная сакратарка с. Ганна Мацяеўска.

Падчас гаміліі біскуп Алег Буткевіч засярodзіў увагу на евангельскай прыпавесці пра двух сыноў. Першы спачатку адмовіў бацьку ў просьбе пайсці працаваць на вінаграднік, а потым навярнуўся. Другі ж згадзіўся выканаць бацькоўскую волю, але потым гэтага не зрабіў. "Сёння мы маем прыклад св. Зыгмунта Шчэснага Фелінскага, святара, які адкрываў сваё пакліканне ў няпростыя часы XIX стагоддзя. Можна з упэўненасцю сказаць, што гэты сын выканаў волю Айца. Адкрыўшы пакліканне, ён захацеў дапамагаць іншым людзям, сваім суайчыннікам. Жадаючы агарнуць апекай убогіх, дзяцей, сірот, ён засноўвае Канрэгацыю сясцёр-францішканак Сям'і Марыі. Плёны служэння сясцёр мы бачым і сёння тут, у Глыбокім. І праз заступніцтва святога арцыбіскупа Фелінскага молімся за іх у гэтыя дзень".

Напрыканцы Імшы рэліквіі былі перанесеныя ў капліцу Маці Божай Падхорнай Глыбоцкай, куды кожны вернік можа прыйсці для ўшанавання і малітвы пра заступніцтва.

Узнёсласць і яшчэ большую радасць урачыстасці надавала тое, што сёлета 25 гадоў манаскага жыцця адзначаюць тры сястры з Глыбоччыны: сястра Веранiка Дземідовіч, сястра Тацццяна Данч і сястра Ганна Блышко, прысутная на Эўхарыстыі. Словы падзякі і добрыя пажаданні прагучалі ў адрас сястры Ганны, а потым парафіяне разам памаліліся за сясцёр-юбілярак.

# "Выплыві на глыбіню адносін з Богам". Сустрэча духавенства прайшла ў Шуміліне

**12 кастрычніка ў Санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Шуміліне адбылося душпастырскае спатканне біскупа Алега Буткевіча са святарамі і кансэкраванымі асобамі Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Сустрэча распачалася з канферэнцыі. Доктар тэалогіі, пробашч катэдральнага касцёла ў Віцебску кс. Валерый Марціноўскі закрануў са святарамі тэму "Духоўнае айцоўства ў святарстве" і прапанаваў прысутным паразважаць над пытаннем "што значыць нараджаць дзяцей для Хрыста?" Кіруючыся рознымі адказамі і ўрыўкамі з Бібліі, прамоўца падсумаваў: "найперш, гэта праца Духа Святога ў сэрцы святара, вызваленне ад эгацэнтрычнай адзіноты".

Для законных сясцёр а. Анджэй Юхневіч OMI распавядаў пра фармацыю кансэкраванай асобы і разгледзеў розныя элементы клопату пра сябе і развіццё ў розных напрамках.

Адарацыя Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце ў цішыні, асабліва ў кастрычніку, заахвоціла многіх дастаць з кішэні ружанец і, перабіраючы бусінкі, узносіць свае малітвы і падзякі праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі.

Падчас святой Імшы біскуп Алег Буткевіч прывітаў на сустрэчы прадстаўніка Апостальскай нунцыятуры ў Грузіі кс. прэлата Аляксандра Рагіню, які ў адпачынак прыехаў на Радзіму.

На заканчэнне сустрэчы падчас розных аб'яў біскуп Алег заахвоціў далучыцца да сусветнай ініцыятывы "Мільён дзяцей моліцца на ружанцы", якая пройдзе 18 кастрычніка. Тэлемост злучыць усе дыяцэзіі нашай краіны а 18-й гадзіне на супольную малітву самых маленькіх беларусаў. Віцебскую дыяцэзію ў гэтым годзе будзе прадстаўляць Браслаўская парафія.





# Пілігрымы ў доме Марыі. Фацімская ўрачыстасць у Шуміліне

**13 кастрычніка шумілінская святыня была напоўненая прысутнасцю вялікай колькасці пілігрымаў, якія прыйшлі, каб з любоўю ўшанаваць Маці Божую Фацімскую.**

■ **Айцец Павел Лемех OMI**, *тэкст;* **Іван Моніч**, *фота*

Ужо мінула сто шэсць гадоў з таго моманту, калі Марыя скіравала да дзяцей у Фаціме наступныя словы: "Я – Маці Божая Ружанцовая. Трэба працягваць штодзённа маліцца на ружанцы. Вайна скончыцца, і жаўнеры хутка вернуцца дадому (...) Няхай людзі ўжо не абражаюць Бога грахамі, Ён і так ужо вельмі зняважаны".

Вітаючы пілігрымаў, айцец-пробашч Анджэй Юхневіч OMI сказаў: "Словы Маці Божай з Фацімы не страцілі свайёй актуальнасці і сёння. Мы прымаем Яе запрашэнне і з яшчэ большай свядомасцю і руплівасцю малітвай Ружанцам просім Бога пра спыненне ўсіх войнаў і канфліктаў на свеце, асабліва ў суседняй Украіне і на Блізкім Усходзе".

Для пілігрымаў, якія прыбылі ў Шуміліна з розных мясцін Віцебскай дыяцэзіі і ўсёй нашай Бацькаўшчыны, час, праведзены ў доме Марыі, быў момантам малітвы, навяртання і задумы над словамі Маці Божай.

Яго Эксцэленцыя біскуп Алег Буткевіч, які ўзначаліў Святую Літургію і разам з вернікамі ўдзельнічаў у ружанцовай працэсіі вакол санктуарыя, прамовіў да прысутных Божае слова. У сваёй гаміліі біскуп, прыгадваючы значэнне аб'яўленняў у Фаціме, заахвоціў пілігрымаў да навяртання, да руплівай малітвы і пакуты. Асаблівым чынам Яго Эксцэленцыя сказаў пра важнасць посту, заахвоціў вернікаў адкрыць значэнне і моц гэтай духоўнай практыкі.

Пасля малітвы айцец-пробашч і шумілінскія парафіяне запрасілі ўсіх на супольную "Агапу". Гэта быў добры час смачнай вячэры і будавання братэрскай супольнасці.

# История выздоровления алкоголика

**Станислав страдал от алкогольной зависимости около 15 лет, но нашёл в себе силы посмотреть на себя честно. Это помогло ему найти выход. "Сейчас я знаю, как действует эта болезнь, это она убеждает тебя, что по-другому невозможно, на самом деле, конечно, это не так", – говорит Станислав о своей проблеме.**

– Я рос в очень религиозном окружении, так что после таинства конфирмации принял решение, что до 18 лет не буду употреблять алкоголь. Это обещание я сдержал. Помню, как с нетерпением ждал, думал об этом. На сам день рождения я купил бутылку водки, и в общежитии мы с друзьями тайком эту бутылку выпили. Я ничего особенного тогда не почувствовал, а выпил просто потому, что так делали все.

После этого я особо не употреблял. Возможно, одну бутылку пива с друзьями и выпивал за год, но это точно не было для меня проблемой. Я мог выпить, а на следующий день спокойно шёл на работу. Так жил я достаточно долго.

Проблемы начались с 2006 года. Я всё ещё не знаю почему, но в тот год я впервые похмелился. До этого меня всегда удивляли люди, которые говорили оставить немного алкоголя на утро, чтобы похмелиться. Я не понимал, как можно употреблять ещё что-то и на второй день.

С того момента у меня начала рассыпаться жизнь. Любая неудача, малейшая проблема разбивали меня, а я поднимал рюмку и забывался. Так я загонял себя ещё больше.

Тогда я начал искать продолжения употребления после посиделок с друзьями. Мне не нужно было обязательно напиваться, но я должен был быть всегда хоть немного "под кайфом". Я никогда не напивался до потери сознания, хоть и выпивал при любой возможности. Единственное, что меня напрягало, я обязательно должен был выпить перед сном, просто, чтобы заснуть.

Когда начал употреблять сильнее, стали возникать проблемы на работе. До меня стало невозможно дозвониться. Когда был пьяный не поднимал трубку потому, что не мог, а когда трезвый – не поднимал на зло. Когда наконец поднимал, ситуация была уже очень серьёзной, и мне нужно было выпить, чтобы забыться. Так я искал выход в употреблении, не осознавая, что только ещё больше топлю себя.

Так продолжалось до 2021 года. В тот год я понял, что так больше нельзя. Меня уже начало трясти. Я понял, что если не начну лечиться, то просто не проснусь или упаду где-то прямо за столом. Тогда я пошёл в реабилитационный центр. Я очень боялся, был унижен алкоголизмом, мне было стыдно, что человек моего положения может быть алкоголиком.

К моему удивлению, меня приняли нормально. Я даже не заметил, как всё рассказал, и никто не удивился моей истории. Это великая тайна реабилитационного центра – там все одинаковые. Там нет лучших и худших, алкоголик и есть алкоголик, а кто ты, кроме того, что ты алкоголик, их не интересовало. Меня никто не осуждал, наоборот, они ценили то, что я сразу рассказал всё о себе. Я ничего не скрывал.

Для меня быть открытым было не просто, но это помогло мне понять, что я больной. До этого я думал, что это просто распущенность. Поэтому ещё до центра не один раз я клялся и обещал Богу, что не буду употреблять. А для меня клятва перед Богом – дело серьёзное. Я глубоко верующий человек. Я молился, чтобы от меня это отступило. Я говорил своему руководству, что пытаюсь бросить пить, просто, чтобы поставить себя в неловкое положение. Ничего не работало. До реабилитационного центра я продолжал пить, что бы ни делал. Теперь я понимаю, почему. Я хотел перестать пить на время, чтобы потом опять иногда выпивать, как это было прежде.

Сразу после выхода я начал организовывать группу АА у себя в городе, у нас такого ещё не было. В этом мне очень помогла группа из соседнего города.

В первый год моей настоящей трезвости у меня было много сомнений. Я хотел выпить, поэтому у меня постоянно возникали вопросы: "А может...? А может, выпить? А может, уже можно? А может, вообще я зря это всё затеял?" Теперь я мыслю по-другому, не скажу, что желание выпить совсем пропало, но оно меня больше не беспокоит.

Собрания АА помогли мне увидеть весь ужас этой болезни. На собраниях мы периодически делимся историями, и я вижу по-настоящему покалеченных внутри людей, таких, каким был я всего пару лет назад. Это останавливает меня от гордости за то, что я трезвый, помогает понять, что моя трезвость – только начало. А ещё это позволяет мне поблагодарить Бога за то, что я трезвый, и что я могу показывать другим алкоголикам, что жить трезво возможно.



*Историю Станислава записала* ***Лолита Орловская***

## Капліца ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

**Святая Імша там цэлебруецца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00.**

Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29
**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны **ксёндз Віктар**! Прыміце нашыя шчырыя віншаванні з нагоды Дня нараджэння! Жадаем Вам поспехаў і здзяйснення мараў, шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых і ахвярных людзей навокал, а таксама шчырых і адкрытых сэрцаў! Няхай Міласэрны Езус заўсёды валадарыць у Вашым жыцці, а Маці Божая нястомна трымае Вас у сваёй міласэрнай апецы!*

***З павагай і найлепшымі пажаданнямі, Іосіф Гаеўскі (в. Прудцы Шчучынскага р-на)***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*12 кастрычніка адзначыў гадавіну святарскага пасвячэння **ксёндз Уладзіслаў Шарковіч**. З гэтай нагоды прыміце нашыя шчырыя віншаванні, шаноўны ксёндз Уладзіслаў! Жадаем Вам Божай ласкі і дароў Духа Святога ў выкананні пастырскага служэння! Няхай Маці Божая заўсёды абараняе ад небяспекі і атуляе сваёю бясконцай любоўю! Усяго Вам самага добрага!*

***Вернікі парафіі Святога Яна Хрысціцела (Опса)***

### *Хвала Хрысту!*

*Паважаны **ксёндз Уладзіслаў**! Віншуем Вас з Днём святарскага пасвячэння (12 кастрычніка)! Жадаем Вам, дарагі ойча, шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, супакою, нястомнай апекі Маці Божай! Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень святарскага жыцця, надаюць сілы і моцы для ажыццяўлення новых планаў, задумак на карысць Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу!*

***З пашанай, родныя***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзісне шчыра дзякуюць **ксяндзу-каноніку Аляксандру Чайкоўскаму** за яго адданую працу ў парафіі!*

*У верасні ксёндз Аляксандр адзначыў свой дзень нараджэння. Ад усяго сэрца віншуем яго з гэтай нагоды і зычым яму моцнага здароўя, сілы і цярплівасці ў яго служэнні Богу і людзям!*

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Сардэчна віншуем нашага паважанага **ксяндза-пробашча Івана Кароткіна** з Днём нараджэння, які ён адзначыў 8 кастрычніка!*

*Божых ласкаў Вам, ойчанька, усіх дароў Святога Духа, праз усё жыццё – апекі Маці Божай! Каб Ваш святарскі шлях быў заўсёды акрылены і напоўнены супакоем і радасцю! Няхай Вашае мудрае Божае слова заўсёды яднае ўсіх вернікаў у супольнай малітве і дае свае плады!*

*Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што маем такога ксяндза! Шчыра і нізка кланяемся Вашым бацькам за выхаванне такога сына-святара!*

***З удзячнасцю і павагай, уся Лужкаўская парафія***

### *Хвала Хрысту!*



*Шчыра віншуем Вас, ксёндз Сяргей Сурыновіч, з нагоды Дня імянінаў (9 верасня)!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, каб доўга служылі людзям і вялі за сабой да Бога не адно пакаленне! Няхай Ваша вера і жыццё з Богам прыносіць шмат радасці Вам і тым, хто Вас акружае! Няхай Вас заўсёды атачаюць промні Божай міласэрнасці, моц Духа Святога і апека Маці Божай, а добры Езус заўсёды валадарыць у Вашым сэрцы, няхай святы заступнік знаходзіцца побач!*

*Нізкі паклон Вам за сумесныя малітвы, за дабрыню і разуменне!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*13 кастрычніка імяніны адзначыў наш **душпастыр кс. Эдвард Ахрамовіч**.*

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні Касцёлу, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі Святога Яна Хрысціцеля (Опса)***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*З вялікім духоўным уздымам дасылаем ліст са шчырым віншаваннем для нашага дарагога **ксяндза-пробашча Тадэвуша Кавальскага** з нагоды імянінаў (28 кастрычніка) і Дня нараджэння (14 лістапада)!*

*Шаноўны, любімы і слаўны наш ойча Тадэвуш! Прыміце наша віншаванне і пажаданне моцнага здароўя, даўгалецця Вам і Вашым родным! Няхай агонь Вашага сэрца ніколі не гасне, не тлее, а гарыць ясным полымем, каб Вы заўжды былі бадзёрым, моцным, поўным жыццёвых сілаў для працы на святарскай ніве! Няхай святы Юда Тадэвуш заўжды крочыць побач і ў любы патрэбны момант працягне сваю руку Вам на дапамогу!*

*Дзякуй вялікі Вам за святарскую паслугу, за чуласць і дабрыню! Дзякуй таксама святарам, братам і сёстрам з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах за дапамогу пры неабходнасці! Божага благаслаўлення ім, Вам і Вашым родным! Шчасця, радасці і поспехаў усім!*

***З малітвай, любоўю і павагай, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***

### *Хвала Хрысту!*

*Паважаная спадарыня **Ганна Яблонская**! Віншуем Вас з Днём нараджэння (12 кастрычніка)! Жадаем моцнага здароўя, супакою, нястомнай апекі Маці Божай!*

*Хочам выказаць шчырую падзяку за клопат пра чысціню і парадак у нашым касцёле і на прыкасцельнай тэрыторыі. Няхай добры Божа аддзячыць за працу, пачуе Вашы просьбы і малітвы, шчодра адорыць патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая атуліць сваёй любоўю!*

***Вернікі Мёрскай парафіі***





# Рэкалекцыі для мужчын пройдуць у лістападзе ў Мядзеле

**Запрашаем мужчын і юнакоў прыняць удзел у духоўных практыкаваннях на тэму "Якім я ўяўляю сабе Бога Айца?", што адбудуцца з 17 па 19 лістапада 2023 года ў касцёле Маці Божай Шкаплернай у Мядзеле.**

Рэкалекцыі будзе праводзіць вікарый парафіі св. Андрэя Баболі ў Полацку кс. Алег Хмылко. Святар запрашае разам паразважаць над вобразам Бога Айца і знайсці сапраўдную выяву Бога ў нашых сэрцах. "Якім я ўяўляю сабе Бога Айца? Блізкім ці далёкім? Які любіць ці Які карае? Міласэрным ці справядлівым? Добрым ці дрэнным?

Падчас рэкалекцый мы будзем разважаць над нашым вобразам Бога Айца. Які Ён для мяне? Вобраз можа моцна адрознівацца ад таго, якім мы ўяўляем розумам Стваральніка, ад таго, што мы адчуваем сэрцам. Выява Бога ў значай ступені фармуецца на аснове ўяўленняў бацькоў.

Для дзіцяці яго першым "богам" з'яўляюцца бацькі. Калі чалавек пачынае пазнаваць пра існаванне Бога і Яго ўласцівасці, гэтыя першыя перажыванні, атрыманыя ў выніку адносін з бацькамі, становяцца своеасаблівым фільтрам, праз які праходзяць усе далейшыя духоўныя перажыванні.

Выявы могуць быць дрэнна сфармаванымі і быць нездаровымі, дысфункцыянальнымі, незалежнымі".

**Праграма рэкалекцый**

**Пятніца, 17 лістапада**
20.00 — вячэра, знаёмства
21.00 — Святая Імша
22.00 — пытанні і адказы

**Субота, 18 лістапада**
7.45 – Lectio Divina (уводзіны ў малітву Божым словам)
8.30 — сняданак
9.30 — Святая Імша
10.50 — кава-паўза
11.30 — канферэнцыя №1
13.00 — абед
14.00 — пытанні і адказы
15.00 — Вяночак да Божай Міласэрнасці
15.30 — кава-паўза
17.00 — канферэнцыя №2
18.30 — вячэра
19.30 — Адарацыя (Ружанец, магчымасць споведзі)
20.30 — пытанні і адказы

**Нядзеля, 19 лістапада**
8.00 – Lectio Divina (уводзіны ў малітву Божым словам)
8.30 — сняданак
9.00 — канферэнцыя №3
10.30 — Святая Імша
12.00 — абед
13.00 — пытанні і адказы
*У праграме магчымыя змены.*

**Дадатковая інфармацыя па тэлефонах:**
+375-33-624-42-85 — Павел,
+375-29-588-34-56 — Вячаслаў,
+375-44-733-71-67 Viber.

Рэкамендаванае ахвяраванне, якое ўключае ў сябе начлег і харчаванне, – 100 руб.

З сабой па магчымасці неабходна ўзяць Біблію, малітоўнік, сшытак, ручку.

Адрас: Мінская вобласць, г. Мядзел, вул. Міру, 6

*msj.by*

# Кніга, якой валодае Віка... Чыя яна? Вікіна? Віцына? Вічына?

**Мы штодня ў камунікацыі выкарыстоўваем прыналежныя прыметнікі, не надта задумваючыся, ці правільна гэта робім. Яно і зразумела, бо дбае пра культуру мову ў наш час далёка не кожны. Да таго ж нават у людзей з добрым валоданнем мовай, з дастаткова глыбокімі ведамі граматыкі не заўсёды атрымліваецца пазбегнуць памылак.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Таму сённяшні матэрыял нашай моўнай старонкі мы прысвячаем акурат пэўным аспектам ужывання ў сучаснай літаратурнай мове прыналежных прыметнікаў. А за ідэю дзякуем чытачцы "Каталіцкага Весніка" спадарыні Лідзіі К. са Смаргоншчыны і яе дачцэ Вікторыі. Вось што піша, у прыватнасці, сп-ня Лідзія: "З цікавасцю сачу за матэрыяламі моўнай старонкі ў "Каталіцкім Весніку". Шмат новага для мяне, хоць і мову нашу ведаю нядрэнна... І вось неяк я задумалася: а як правільна адказаць на пытанне, чыя гэта рэч, калі яе гаспадыня, напрыклад, Віка? Менавіта так завуць маю дачку... Спрабавалі пачытаць уважліва правіла, але толькі больш заблыталіся. То, можа, на старонках газеты знойдзем адказ?"

Адразу падзякуем сп-ні Лідзіі і яе дачцэ за сапраўды важнае, актуальнае пытанне. І мяркуем, што гэтая тэма будзе цікавая для многіх нашых чытачоў, таму паспрабуем крыху разабрацца ў межах нашай моўнай рубрыкі.

Сапраўды, прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі і прозвішчамі асобаў, прадуктыўна выкарыстоўваюцца ў беларускай мове. Найчасцей, праўда, гэта назіраецца на побытавым узроўні, у неафіцыйнай камунікацыі, у размоўным стылі. І большасці выпадкаў праблем не ўзнікае. Мы без цяжкасцяў ужываем прыналежныя формы ў канструкцыях кшталту *Наташына куртка*, *Каціна паліто*, *Валіна кніга* ці *Тамарын партфель*. Але практычна заўсёды ёсць складанасці з ужываннем граматычных формаў асобных імёнаў, аснова якіх заканчваецца на **Г**, **К**, **Х**. Калі, да прыкладу, дзяўчына Вераніка трымае ў руках смартфон, дык ён чый: *Веранікін, Вераніцын, Веранічын*? Тое ж самае і з Вікай...

У падобных выпадках трэба памятаць, якія чаргаванні гукаў адбываюцца ў беларускай мове. Пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў ад назоўнікаў жаночага роду з асновай на **г**, **к**, **х** назіраецца чаргаванне: **г** пераходзіць у **ж**, **к** – у **ч**, а **х** – у **ш**: *Вольга* – ***Вольжын***, *Вераніка* – ***Веранічын***, а калі возьмем для ілюстрацыі размоўную форма *Ксюха*, то будзе ***Ксюшын***. Гэта так званыя гістарычныя чаргаванні, такія формы фіксуюцца ў помніках беларускага пісьменства ўжо ў XV стагоддзі. Прыгадаем тут фрагмент з рамана Вольгі Іпатавай "Альгердава дзіда", дзе аднаго з герояў твора завуць Вольжыч:

*А імя тваё чаму Вольжыч? – настойліва запытаўся Альгерд.*

*А Рацібор неяк прыязджаў у селішча, дык загадаў мяне, дваццаціґадоваґа ахрысціць... Якраз тады твой бацька ажаніўся з князяняй Вольгай, дык мяне і назвалі –* ***Вольжыч****.*

Такім чынам, адказваючы на пытанне нашай шаноўнай чытачкі, канстатуем, што ад імя **Віка** ўтвараецца прыналежны прыметнік **Вічын**. Гэта адзіная магчымая правільная форма. Але, беручы пад увагу пэўныя складанасці ў вымаўленні, параім таксама і іншы шлях, калі перадаць сэнс выказвання можна апісальна, не ўжываючы непасрэдна прыналежнага прыметніка: *гэта смартфон Вікі*, *куртка Веранікі*, *хустка Вольгі*, нарэшце, звяртаючыся да размоўнай формы, *гэта парасон Ксюхі*.

Спадзяёмся, што прапанаваныя намі тлумачэнні дапамогуць нашым чытачам правільна выкарыстоўваць прыналежныя прыметнікі, што дазволіць пазбегнуць блытаніны і паспрыяе павышэнню культуры беларускага маўлення.

# Што паглядзець? Фільм "Другое жыццё Увэ"

**Калі табе не падабаецца чалавек, паспрабуй паглядзець на яго яшчэ раз. Такая думка прыйшла пасля прагляду кінастужкі.**

**Трэба сказаць, што фільм "Другое жыццё Увэ" (швед. En man som heter Ove, "Чалавек, якога клічуць Увэ") – гэта экранізацыя рамана "Мужчына па імені Увэ". Кніга аўтарства Фрэдэрыка Бакмана з'явілася ў Швецыі ў 2012 годзе і стала сапраўдным бестселерам.**

Фільм таксама атрымаўся цікавым, узнагароджваўся некалькімі прэміямі міжнародных фестываляў і намінаваўся на "Оскар".

Галоўны герой кінастужкі Увэ Ліндаль жыве ў тыповым шведскім горадзе. На першы погляд, гэты немалады мужчына-інтраверт – прынцыповы і непрыемны. Ён штодня абыходзіць раён, дзе жыве, знаходзіць дробныя недахопы і сварыцца з суседзямі.

У мужчыны няма сяброў, ды і ў прынцыпе ён раздражняе і сваіх суседзяў, і ўсіх навокал. Здаецца, менавіта таму мужчына ходзіць штодня на магілу жонкі, каб хоць з кімсьці паразмаўляць.



Але потым у жыцці адбываюцца падзеі, якія дазваляюць кожнаму паглядзець на чалавека з іншага боку. Падзеі пачынаюцца даволі банальна: у галоўнага героя з'яўляюцца новыя суседзі – маладая сям'я з дзецьмі.

Разам з прыездам суседзяў гледачу даецца магчымасць зазірнуць у дом Увэ. Цікава, што гэты дом не быў панурым ці непрыемным. Ён быў поўным дзівосна прыгожых рэчаў, поўным кніг і незвычайнай мэблі. Чаму незвычайнай, – даведаецеся, калі паглядзіце фільм.

Разам з цудоўным домам у стужцы з'яўляюцца і ўспаміны галоўнага героя. Узіраючыся ў гэтыя ўспаміны, глядач разумее: у хлопчыка Увэ было няпростае жыццё ад самага дзяцінства. Вельмі рана памерла маці, а бацька, хоць стараўся выхоўваць і любіць хлопца, быў нешматслоўны, замкнуты ў сабе, а часам нават суровы.

Але пры гэтым у хлопца былі найлепшыя чалавечыя рысы: стараннасць, адказнасць, шчырасць і вострае пачуццё справядлівасці.



Сапраўдным цудам у жыцці Увэ была адна незвычайная сустрэча – з будучай жонкай Соняй. Соня ўбачыла ў маладым хлопцу самае галоўнае – сэрца. Сэрца, якое было здольным любіць. І дзеля гэтай любові Увэ літаральна гатовы на ўсё.

Кінастужка прасякнутая каханнем. Тым каханнем і вернасцю, якімі прысягаюць сужэнцы перад алтаром: у шчасці і няшчасці, у здароўі і хваробе. Увэ і Соня разам праходзяць шматлікія цудоўныя моманты і драматычныя выпрабаванні і зберагаюць каханне і вернасць, а разам з імі – радасць жыцця.

Акрамя жыццёвага шляху галоўных герояў, у фільме прадстаўленыя цікавыя і вострыя гісторыі простых шведскіх людзей. Узнятыя тэмы ўцекачоў, бюракратыі, карупцыі. Разам з тым можна атрымаць асалоду ад тонкага гумару, вясёлых момантаў ды метафарычных цытат.

"Другое жыццё Увэ" справядліва можна назваць фільмам пра чалавека з вялікім сэрцам.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Філіпенка***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як вернікі ў Дунілавічах вярнулі сабе святыню

**У публіцыстычных артыкулах і тэлеперадачах, прысвечаных гісторыі Заходняй Беларусі, нярэдка можна сустрэць сцвярджэнне, што польскія ўлады забралі ў праваслаўных каля 300 цэркваў (некаторыя аўтары называюць лічбу 1.300) і перарабілі іх на касцёлы. Калі чытач або глядач не ведае гістарычнага кантэксту і папярэдніх падзей, у яго можа скласціся ўражанне, што ўлады ўчынілі вялікую несправядлівасць супраць праваслаўных, а на карысць каталікоў.**

Каб зразумець, што ў абсалютнай большасці выпадкаў гэта было не так, варта прыгледзецца да гісторыі адной з тых святыняў, якая рашэннем польскіх уладаў у 1919 годзе з царквы стала касцёлам.

Дунілавічы – адно з самых старых мястэчак нашага рэгіёна і адзін з самых старых цэнтраў каталіцтва. Каталіцкая парафія існавала там ужо ў канцы XV стагоддзя. У 1683 годзе ўладальнікі Дунілавічаў – харунжы вялікі літоўскі Кшыштаф Белазор і яго жонка Эльжбета з дому Долмат-Ісайкоўская – ахвяравалі частку свайго маёнтка ордэну дамініканаў. Манахам сталі належаць вёскі Хрыстова і Перасляга. Дамініканe пабудавалі ў Дунілавічах кляштар і новы касцёл, а ў 1685 годзе Эльжбета Белазор ахвяравала святыні абраз Маці Божай, які паходзіў з Фларэнцыі і быў падарункам віленскага біскупа Мікалая Паца. Гэты абраз у хуткім часе стаў вядомы як цудадзейны (да нашага часу ён захаваўся ў дунілавіцкім касцёле).

Першы дамініканскі касцёл у Дунілавічах быў драўляны. Гэтаксама драўляным быў і парафіяльны касцёл. Дзве святыні ў мястэчку былі, бо ў той час манахі, як правіла, не займаліся парафіяльным душпастырствам. У 1769 годзе дамініканe пабудавалі ў мястэчку новую мураваную святыню ў распаўсюджаным у той час стылі віленскага барока. У 1778 годзе яе асвяціў біскуп Фелікс Тавянскі. Дамініканe ў 1782 годзе праводзілі ў Дунілавічах парафіяльныя місіі, у 1796 годзе мелі школу, акрамя таго праводзілі ўрачыстыя набажэнствы ў гонар Маці Божай.

Пасля таго, як у 1793 годзе Дунілавічы трапілі ў склад Расійскай імперыі, Касцёл пачаў сутыкацца з абмежаваннямі. У 1830-х царскія ўлады абмяжоўваюць прыняцце новых кандыдатаў у манаскія ордэны. У 1839 годзе грэка-каталікоў прымусова пераводзяць у праваслаўе. У 1842 годзе у дунілавіцкага кляштара адбіраюць маёнтак. Духоўныя ўлады засноўваюць у Дунілавічах новую парафію, цэнтрам якой становіцца дамініканскі касцёл.

Пасля паразы паўстання 1863 года царскія ўлады пачынаюць новую хвалю рэпрэсій і абмежаванняў супраць каталіцтва. У 1866 годзе былы дамініканскі касцёл у Дунілавічах забіраюць і перадаюць праваслаўным. Новы праваслаўны прыход быў нешматлікі, але пры фінансавай дапамозе расійскіх уладаў касцёл перабудавалі: надбудавалі купалы-"цыбуліны" і ўсталявалі візантыйскія крыжы замест лацінскіх.

Тым часам у Дунілавічах працягваў дзейнічаць драўляны парафіяльны касцёл, асвечаны ў 1776 годзе. Ён стаяў насупраць дамініканскага, на месцы, дзе цяпер могілкі польскіх вайскоўцаў. Колькасць парафіянаў да канца XIX стагоддзя дасягнула 6.000. Калі ў 1890 годзе касцёл згарэў, царскія ўлады не дазволілі адбудаваць яго на тым самым месцы, матывуючы гэта тым, што ён знаходзіўся б насупраць царквы (?). Таму давялося будаваць касцёл на новым месцы, за мястэчкам.

Неўзабаве пасля таго ўлады Расійскай імперыі зменшылі ціск на Касцёл. З 1897 года стала значна лягчэй атрымаць дазвол на будаўніцтва або рэканструкцыю касцёлаў. У 1905 годзе цар Мікалай II выдаў указ, паводле якога падданыя маглі пераходзіць з праваслаўя ў іншыя канфесіі. У ваколіцах Дунілавіч перайшлі ў каталіцтва сотні праваслаўных, чые продкі да 1839 года былі грэка-каталікамі. Напрыклад, перайшлі ў каталіцтва ўсе жыхары вёскі Завараты. Каталікі з Дунілавічаў сталі нават спрабаваць дабіцца вяртання ім забранага касцёла. Царскія ўлады на гэта не згадзіліся. Але ў хуткім часе адбыўся шэраг войнаў і рэвалюцый, якія спынілі існаванне Расійскай імперыі. З кастрычніка 1915 да лютага 1918 года ў недалёкіх Паставах стаяў расійска-нямецкі фронт, потым у Дунілавічы прыйшлі немцы, у снежні 1918 года – бальшавікі, а ў жніўні 1919 года – польскія войскі. Праз некалькі месяцаў у Дунілавічах адбылася падзея, пра якую распавядае мясцовы аўтар на старонках тыднёвіка "Ziemia Wileńska" №4 за 1920 год. Працытуем гэты допіс: "Дунілавічы былі сведкам незвычайна шматлікага з'езда 14 снежня мінулага года. Каля 15.000 навакольных жыхароў з'ехаліся на даўно чаканы момант асвячэння падамініканскага касцёла ў Дунілавічах. Ад 1866 года заменены на праваслаўную царкву, у дзень 10 снежня зноў перайшоў у валоданне каталіцкага духавенства. Каталіцкае насельніцтва яшчэ перад вайной рабіла старанні ў расійскага ўрада аб вяртанні касцёла, а потым у немцаў, а таксама ў бальшавікоў. Найцяжэйшы перыяд прайшлі каталікі ў бальшавіцкія часы, калі старанні пра вяртанне касцёла закончыліся сапраўдным бедствам. Бальшавіцкая "чрезвычайка", хоць прызнала касцёл каталіцкім спецыяльным пратаколам, але замест таго, каб яго вярнуць, загадала арыштаваць усіх 12 сяброў касцельнага камітэта, а потым выдала прысуд, паводле якога ўсе мелі быць расстраляныя. Гераічныя сябры амаль цудам ацалелі, але хутчэй згадзіліся б памерці, чым здрадзіць справе даверанага сабе касцёла. У дзень 10 снежня 1919 года нарэшце польскі ўрад здзейсніў справядлівасць і праз 53 гады вярнуў касцёл законным уладальнікам, абапіраючыся на сур'ёзныя гістарычныя дакументы. Радасць была нечуваная. Незнаёмыя людзі пацiскалі адно аднаму рукі, цалаваліся і чувадь быў плач радасці. На асвячэнні касцёла было прысутных 12 ксяндзоў, і толькі дзясятая частка вернікаў магла змясціцца ў касцёле.

На працягу трох дзён быў зменены знешні і ўнутраны выгляд, і царква зноў стала былым дамініканскім касцёлам. Праваслаўнае насельніцтва прыняла з поўным спакоем рашэнне ўраду, бо ніхто тут не сумняецца ў каталіцкім паходжанні касцёла. Цяпер, здаецца, найбольш пажаданай рэччу было б, каб айцы-дамініканe, якіх вельмі добра ўспамінае насельніцтва, прынялі зноў у валоданне сваю старую святыню. Пасля ўрачыстасці асвячэння касцёла сабранае на рынку насельніцтва ўхваліла прапанову скіраваць да Кіраўніка Дзяржавы адозву з падзякай…"



**Касцёл святога Міхала Арханёла ў Дунілавічах, пабудаваны ў 1894 годзе на ўскраіне мястэчка, які выконваў функцыю парафіяльнага. Фота каля 1902 года.**

Да 1930 года былы дамініканскі касцёл меў статус філіяльнага ў Дунілавіцкай парафіі. Потым ён зноў стаў цэнтрам парафіі. Драўлянаму касцёлу, які з 1894 года стаяў на ўскраіне мястэчка, вернікі знайшлі іншае прымяненне: яго разабралі і перанеслі ў Варапаева, дзе адчувалася патрэба заснавання каталіцкай святыні. 5 студзеня 1935 года касцёл у Варапаеве асвяціў віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі.

Праз некаторы час вернікі Дунілавічаў зноў страцілі святыню. У 1948 годзе пробашч кс. Чэслаў Кардэль быў арыштаваны камуністычнымі ўладамі, а касцёл зачынілі і ператварылі ў калгасны склад. У 1989 годзе ў час гарбачоўскай "перабудовы" вернікі дабіліся ад савецкіх уладаў вяртання касцёла. Першую імшу адслужыў 12 жніўня 1989 года ксёндз Уладзіслаў Блін, пазнейшы біскуп. Коштам вялікіх высілкаў і ахвяраванняў святыня была адрамантаваная. 1 лістапада 1992 года на фасадзе касцёла ўсталявалі шыльду з надпісам: "Удзячныя Богу і заступніцтву Марыі за свабоду рэлігіі і Касцёла, за тое, што мінулі часы бясправя, прыніжэння і руйнавання гэтай святыні 1945-1990, узносім гэты камень для нашчадкаў, каб, трываючы пры Богу, дбалі пра яе і баранілі яе нават да аддання свайго жыцця".

Гісторыя касцёла ў Дунілавічах паказвае тое, што і будынкі святыняў, і рэлігійная традыцыя, і Хрыстовае Евангелле больш трывалыя за ўлады, якія змагаюцца з Касцёлам. Бо Езус сказаў, што "брамы пякельныя не перамогуць Касцёл" (Мац, 16, 18).

*Кастусь Шыталь*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Кацяловіч В.І.** *(Хвасты)*, **Зайцава С.В.** *(Свідна)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Альбіна Шылько** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Тацціяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Тэрэса Мардасевіч** *(Нясвіж)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Елізавета Лебядзева** *(Бягомль)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Іван Сіманенак** *(Паставы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Алімпія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Антон Парфяновіч** *(Мінск)*, **Яніна Парфяновіч** *(Шаркаўшчына)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Тэрэса Балтромун** *(Бастуны)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Сафія Іжык** *(Ашмяны)*, **Алена Карневіч** *(Нііўнае)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Васіль Яноўскі** *(Завараты)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Тэрэса Дулевіч** *(Браслаў)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абабе)*, **Ганна Стальмачонак** *(Быстрымаўцы)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Галіна Ціунэль** *(Пагошча)*, **Немыцкая Б.К.** *(Паставы)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Кірылава В.І.** *(Ёды)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Альфрэда Марэнкова** *(Віцебск)*, **Ірэна Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Эльвіра Богуш** *(Глінішчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Чэслаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абабе)*, **Даната Царкоўская** *(Быстрымаўцы)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Вячаслаў Кірплюк** *(Варапаева)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абабе)*, **Ліля Іватовіч** *(Яневічы)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Ганна Лаўнікоўская** *(Лучай)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Скаўронская Яніна** *(Луцк Масарскі)*, **Ластоўская Зоф'я** *(Мосар)*, **Камінская Лілія** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*




Пахвалёны Езус Хрыстус. Вітаю цябе, дарагі дружа, у новым нумары "Пазнавайкі". Вось і надышоў кастрычнік, а разам з ім – сапраўдная рознакаляровая восень. Гэта вельмі багаты месяц на розныя цікавыя падзеі. Давай разам даведаемся пра іх, выконваючы заданні.

## 1 заданне

**2 кастрычніка** Каталіцкі Касцёл святкуе ўспамін святых **Анёлаў Ахоўнікаў**. Хто такія Анёлы Ахоўнікі? Анёлы — гэта дасканалыя істоты, яны трапляюць туды, куды не могуць трапіць людзі, яны сузіраюць Бога тварам у твар і прыбываюць у промнях Яго хвалы.

Анёл Ахоўнік ёсць каля кожнага чалавека, і нам трэба з імі сябраваць і прасіць апекі.

Ці ведаеш ты, дружа, што ёсць цудоўная малітва да Анёла Ахоўніка? Успомні яе і дапішы прапушчаныя словы. Звяртайся словамі гэтай малітвы да свайго Анёла кожны дзень.



АНЁЛЕ БОЖЫ, ______________ МОЙ, ТЫ
ЗАЎСЁДЫ БУДЗЬ СА __________ , __________,
УВЕЧАР І ЎНАЧЫ БУДЗЬ ЛАСКАЎ МНЕ
________ЗМАГАЦЬ ________________ ЗЛОГА,
ВЕРНА СЛУЖЫЦЬ ______________ . ДУШУ,
__________________ СЦЕРАЖЫ, ДА ЖЫЦЦЯ
______________ ДАВЯДЗІ. АМЭН.

## 2 заданне

Размалюй ілюстрацыю. Паразважай, у якіх патрэбах мы можам звяртацца да Анёла Ахоўніка



## 3 заданне



**18 кастрычніка** Каталіцкі Касцёл узгадвае святога Луку Евангеліста. Гэта вучань Езуса Хрыста. Менавіта ён стаў аўтарам трэцяга Евангелля і Дзеяў Апосталаў. Па прафесіі святы Лука быў лекарам і сябрам апостала Паўла.

Гэтага святога часта малююць з валом. Кажуць, гэта таму, што ён быў цярплівым і верным, як гэтая жывёла.Евангеліста называюць «песняром Божай міласэрнасці», бо толькі ў яго Евангеллі змешчана прыпавесць пра блуднага сына і міласэрнага айца.

Сёння прапаную табе ўспомніць гэтую прыпавесць.

**Прачытай урывак з Евангелля ад Лукі (15, 11-32), адкажы на пытанні крыжаванкі і даведаешся, хто лічыць святога Луку сваім апекуном:**

1. Які сын папрасіў у бацькі частку спадчыны?
2. Што зрабіў малодшы сын, атрымаўшы маёмасць?
3. Чым хацеў набіць жывот малодшы сын, апынуўшыся ў нястачы?
4. *Устаў прапушчанае слова.* "Устану і пайду да ... майго".
5. Якое цяля загадаў прыгатаваць бацька?
6. *Устаў прапушчанае слова.* "Гэты сын мой быў ... і ажыў, прапаў і знайшоўся".



## 4 заданне

Усе мы добра ведаем, што кастрычнік – месяц, у якім вернікі асабліва ўшаноўваюць Маці Божую Ружанцовую. Успомні, у які з дзён тыдня адмаўляецца кожная з частак Святога Ружанца. Адказы запішы.



РАДАСНЫЯ ТАЯМНІЦЫ
МОЛІМСЯ Ў________ І
________________
РАЗВАЖАЕМ НАД _____
____________________



БАЛЕСНЫЯ ТАЯМНІЦЫ
МОЛІМСЯ Ў _________
І ___________________
РАЗВАЖАЕМ НАД ____
____________________



ТАЯМНІЦЫ СВЯТЛА
МОЛІМСЯ Ў ____________
РАЗВАЖАЕМ НАД _______
______________________



ТАЯМНІЦЫ ХВАЛЕБНЫЯ
МОЛІМСЯ Ў ______І _____
РАЗВАЖАЕМ НАД ______
____________________

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна****; ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# Міжнародны малітоўны кангрэс у абарону жыцця пройдзе ў Навагрудку

**У нашай краіне з 18 лістапада 1920 года дзяцей легальна забіваюць ва ўлонні маці. Штодня ў Беларусі больш за 50 хлопчыкаў і дзяўчынак гіне толькі ў выніку абортаў, не кажучы ўжо пра знішчэнне эмбрыёнаў пры дапамозе спіраляў, гармонаў і ЭКО. Таму ў наш час саблівым чынам “неабходная вялікая малітва за жыццё, якое ідзе праз увесь свет” (Св. Ян Павел II, Evangelium Vitae, 100).**

Ідэя малітоўных кангрэсаў у абарону жыцця ўзнікла ў сярэдзіне 2000-х гадоў і была рэалізаваная пры актыўным удзеле міжнароднай каталіцкай пралайф-арганізацыі Human Life International, малітоўнага руху “Памочнікаў каштоўных Божых немаўлят”, заснаванага кс. Філіпам Рэйлі ў ЗША, Цэнтрам Жыцця ў Вене, Зальцбургу, Мюнхене і іншых гарадах.

Беларускія абаронцы жыцця бралі ўдзел у малітоўных кангрэсах у абарону жыцця ў 2008 (Лурд), 2010 (Рым), 2012 (Вена) і 2015 (Фаціма) гадах, добра зразумелі іх сутнасць і важнасць і зараз вырашылі перанесці іх на нашу беларускую глебу.

Адметнай рысай малітоўных кангрэсаў з’яўляецца не толькі слуханне дакладаў і ўдзел у абмеркаванні важных пытанняў аховы жыцця і сям’і, але і непасрэдна малітва ў абарону жыцця. Напрыклад, у 2015 годзе ўдзельнікі кангрэса здзейснілі малітоўнае шэсце да бальніцы, дзе здзяйсняюцца аборты, дакладна так, як гэта ўжо на працягу трох дзясяткаў гадоў робяць абаронцы жыцця ў многіх краінах.

Першы малітоўны пралайф-кангрэс у Беларусі прайшоў у 2021 годзе, дзе былі не толькі навуковыя даклады, але і сведчанні абаронцаў жыцця, паломніцтва з белымі крыжамі да санктуарыя Багародзіцы Новага Жыцця ва Уселюбе і шмат малітвы на працягу кожнага дня кангрэса, з начной адарацыяй і ўрачыстым Актам пакаяння за грахі нашай краіны супраць жыцця і сям’і, якое зачыталі біскупы.

Для каго гэты кангрэс? Для абаронцаў жыцця, чальцоў сямейных малітоўных рухаў, духоўнага ўсынаўлення, выпускнікоў школ сямейнага жыцця, а таксама тых, хто пакутуе ад наступстваў абортаў у сваіх сем’ях.

**Арганізатары:**
- Дабрачынны фонд “Адкрытыя сэрцы”.
- Экспертная рада па пытаннях жыцця і сям’і пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.
- Парафія Св. Міхала Арханёла, Навагрудак.

## Праграма

**Пятніца, 3 лістапада:**
18.00 – св. Імша ў інтэнцыі абаронцаў жыцця;
19.30 – вячэра;
20.30 – сведчанні абаронцаў жыцця;
21.30-07.00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў інтэнцыі пакаяння за грахі супраць жыцця і сям’і.

**Субота, 4 лістапада:**
8.00 – сняданак;
9.00 – 13.30 – пешая пілігрымка з Навагрудка ва Уселюб (14 км) з белымі крыжамі ў інтэнцыі пакаяння за грахі супраць жыцця і сям’і. Абед ва Уселюбе;
14.00 – прывітанне і канферэнцыя – кс. Віталь Цыбульскі, кусташ Санктуарыя Маці Божай Новага Жыцця;
15.00 – Ружанец у абарону жыцця.
Вяртанне ў Навагрудак на аўтобусе.
16.00 – “Біблія аб грахах супраць жыцця і сям’і і праклён зямлі” – Уладзіслаў Валаховіч, доктар тэалогіі;
17.00 – “Сувязь абортаў і кантрацэпцыі з ростам колькасці страт цяжарнасці” – Вольга Несцерава, урач акушэр-гінеколаг (Гомель);
18.00 – св. Імша з урачыстым Актам прабачэння – арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, біскуп Алег Буткевіч;
20.00 – урачыстая вячэра абаронцаў жыцця, сведчанне брата Хельмута Дзікена (супольнасць Сэрцаў Езуса і Марыі, Германія);
22.00 – 7.00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (разам з парафіянамі ў касцёле).

**Нядзеля, 5 лістапада:**
8.00 – сняданак;
9.00 – Ружанец у абарону жыцця;
10.00 – св. Імша;
11.30 – перапынак на каву;
12.00 – “Слова і лічба. Пагрозы цыфравізацыі” – А. Віталь Сапега OP, Андрэй Місан (Мінск);
13.00 – “Комплекснае сэксуальнае выхаванне. Межы сораму” – Уладзіслаў Валаховіч;
14.00 – абед;
15.45 – Вяночак да Божай Міласэрнасці;
16.00 – “Хрысціянскае выхаванне дзяцей да сямейнага жыцця” – Іван Пузанаў (Віцебск);
17.00 – “Мужчына і аборт” – Андрэй Мурашкевіч (Магілёў);
17.30 – “Феномен прабачэння ў сітуацыі прэнатальнай страты” – Аксана Макеенка (Мінск);
18.00 – “Агляд наступстваў абортаў для здароўя жанчын і праблемы іх вывучэння” Вольга Кухцянкова (Масква);
19.00 – вячэра;
20.00 – прэзентацыя кнігі доктара Бярнарда Натансана “Рука Божая” – дырэктар выдавецтва “Тропа” Яўген Разенблюм (Масква).

**Панядзелак, 6 лістапада:**
*Сустрэча беларускіх каталіцкіх шматдзетных сем’яў*
8.00 – сняданак;
9.00 – св. Імша;
10.30 – круглы стол на тэму сямейнага гвалту (мадэратар – Іван Пузанаў);
12.30 – перапынак на каву;
12.45 – “Бацькоўства – дзівосны дар Бога” – кс. Віталь Цыбульскі (Уселюб);
13.20 – “Абарона жыцця і выхаванне падлеткаў на базе парафіі” – кс. Уладзімір Марушэўскі TChr (Мінск);
14.00 – фінальная рэфлексія і Вяночак да Божай Міласэрнасці;
15.00 – Абед.

Запіс па тэлефоне:
**+37529 812-22-76**
(Viber, Whatsapp)



# Каляндар на кастрычнік

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**
**2 лістапада – успамін усіх памерлых вернікаў.**
**3 лістапада – успамін св. Марціна дэ Порэса, законніка.**
**4 лістапада – успамін св. Караля Барамэя, біскупа.**
**9 лістапада – свята Гадавіны пасвячэння Латэранскай базілікі.**
**10 лістапада – успамін св. Льва Вялікага, папы і доктара Касцёла.**
**11 лістапада – успамін св. Марціна Турскага, біскупа.**
**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, галоўнага апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**
**15 лістапада – успамін св. Альбэрта Вялікага, біскупа і доктара Касцёла.**
**16 лістапада – успамін Маці Божай Вострабрамскай.**
**16 лістапада – успамін св. Маргарыты Шатландскай.**
**16 лістапада – успамін св. Гертруды, панны.**
**17 лістапада – успамін св. Альжбеты Венгерскай, законніцы.**
**18 лістапада – успамін Гадавіны пасвячэння рымскіх базылік свв. Апосталаў Пятра і Паўла.**
**20 лістапада – успамін св. Рафала Каліноўскага, прэзбітэра.**
**21 лістапада – успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.**
**22 лістапада – успамін св. Цэцыліі, панны і мучаніцы.**
**23 лістапада – успамін св. Клімэнта I, папы і мучаніка.**
**23 лістапада – успамін св. Калюмбана, абата.**
**24 лістапада – успамін св. Андрэя Зунг Лака, святара, і паплечнікаў, мучанікаў.**
**25 лістапада – успамін св. Кацярыны Александрыйскай, панны і мучаніцы.**
**26 лістапада – урачыстасць Пана нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.**
**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – А; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – В; 7 – В; 8 –Б; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч,
Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5195

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 23.10.2023 г. у 7.50

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь